№ 19 (952) 18 мая 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Новы этап

Падпішыся на штомесячнік «Наша Ніва»: добрая аналітыка, рэпартажы, гутаркі, гісторыя і літаратура. **Старонка 2.**



## Джамала

На «Еўрабачанні» перамог крык душы крымскіх татараў. **Старонка 7.**

# Школьнікаў адпраўлялі ў Расію

## ў трэніровачныя лагеры пад кіраўніцтвам неанацыстаў

Асобныя праваслаўныя святары ўцягнутыя ў сумнеўную актыўнасць. Датычнай аказалася і віцебская арганізацыя беларускіх афганцаў «Братэрства».

Любая вайна прыцягвае садыстаў. Канфлікт на Данбасе не быў выключэннем. Сярод іншых адзначыўся там нейкі Аляксей Мільчакоў з Санкт-Пецярбурга — камандзір так званай дыверсійнай групы «Русіч», якая ваявала за «ДНР». На ягоных старонках у сацыяльных сетках з'яўляліся фатаграфіі ўкраінскіх салдат з выразанымі на тварах свастыкамі і адрэзанымі вушамі.

Якое ж было наша здзіўленне, калі мы атрымалі фотаздымкі таго самага Мільчакова, які вядзе заняткі з беларускімі школьнікамі ў летнім лагеры ў Расіі.

Гэты чалавек стаў вядомым у інтэрнэце яшчэ ў 2012 годзе, калі пад сцягам Трэцяга рэйху адразаў сабакам галовы, дэтальна фіксуючы ўвесь працэс на фота. «Сабакі не толькі сябры чалавека, але і выдатны шашлычок», — пісаў Мільчакоў на сваёй старонцы «Укантакце». Гэты «звышчалавек» заклікаў, дарэчы, забіваць не толькі бяздомных жывёл, але і людзей без пэўнага месца жыхарства.

На ўкраінскай вайне Мільчакоў знайшоў прымяненне сваім паталагічным схільнасцям. Разам з аднадумцамі-нацыстамі з «Русіча» Мільчакоў адзначыўся тым, што рабіў на фоне трупаў «сэлфі».

Кадры з ягонай старонкі «Укантакце» не надаюцца на публікацыю праз іх бесчалавечнасць. Але іх без цяжкасці можна адшукаць у інтэрнэце.

**Працяг на старонцы 4.**



**Арсень Касьян з Віцебска, удзельнік летніка пад Масквой.**



**Аляксей Мільчакоў (другі справа) на Данбасе.**

# Лукашэнка ляціць у Еўрасаюз

Выданне ўрада Расіі «Российская газета» паведаміла, што ў пятніцу Аляксандр Лукашэнка зробіць першы візіт у Еўрасаюз пасля зняцця санкцый. Прэссакратарка кіраўніка дзяржавы Наталля Эйсмант пацвердзіла, што такая паездка сапраўды значыцца ў планах.

Мы папрасілі пракаментаваць будучы візіт польскага аналітыка з Цэнтра ўсходніх даследаванняў Каміля Клысіньскага.

«Гэта натуральна, што Аляксандр Лукашэнка спрабуе ўзнавіць кантакты з Еўропай пасля зняцця санкцый менавіта з Італіі. Тут ёсць пэўныя напрацоўкі, быў візіт у 2009 годзе кіраўніка Беларусі ў Італію і Ватыкан. Улады Італіі заўсёды вельмі прагматычна ставіліся да рэжыму Лукашэнкі. Яшчэ раз паўтару: калі пачынаць, то менавіта з Італіі, бо там беларускія аргументы могуць быць пачутыя.

Што тычыцца Ватыкана, то адносіны з Каталіцкай царквой выглядаюць вельмі важнымі для Лукашэнкі. Здаецца, ён усё яшчэ разглядае Ватыкан у ролі саюзніка падчас дыялогу з Еўропай. Не трэба адкідаць і амбіцыі Лукашэнкі, які хацеў бы зладзіць сустрэчу кіраўнікоў Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў у Беларусі.

Візіт у Італіі важны менавіта як пачатак выбудоўвання прыязных адносін з краінамі Еўропы. З гісторыі можна сказаць, што мы не ведаем, наколькі доўга можа працягнуцца такі перыяд. Шмат што будзе залежаць ад хуткіх парламенцкіх выбараў у Беларусі. Калі яны пройдуць мірна і спакойна, а ў нейкай ступені і свабодна, то такое супрацоўніцтва працягнецца. Можна сказаць, што ад выбараў залежыць, ці будзем мы надалей бачыць Лукашэнку ў еўрапейскіх салонах.

Прагназаваць наступныя візіты — няўдзячная справа. Аднак можна выказаць здагадку, што наступнай краінай Еўропы, куды можа прыехаць Лукашэнка, можа стаць Аўстрыя. Мы бачым нарастанне інтэнсіўнасці кантактаў. Летась у Мінску было адкрыта пасольства Аўстрыі, хутка ў Вене пройдзе аўстрыйска-беларускі інвестыцыйны форум».

**Запісаў Зміцер Панкавец**

## Суіцыдальныя суполкі «Укантакце» сталі праблемай у Расіі

Удзельнікаў замбуюць на самагубства? **Старонка 2.**

### Радыкальны нацыянальны праект беларусам ажыццявіць немагчыма

але нацыяналізацыя няўхільная, кажа сацыёлаг Аляксей Ластоўскі. **Старонка 12.**

### Дзень, калі трэба баяцца тэлефонных званкоў

Апавяданне Віктара Дашука. **Старонка 14.**

# Суіцыдальныя суполкі «Укантакце» сталі праблемай у Расіі

**Падлеткі ўдзельнічаюць у загадкавай гульні, цаной якой становіцца жыццё.**




У расійскай «Новой газете» з’явілася вялікае расследаванне Галіны Мурсаліевай на страшную тэму — суіцыды сярод дзяцей і падлеткаў. Выданне кажа, што гэта абавязкова мусяць прачытаць бацькі, каб «паспець выратаваць сваіх дзяцей ад фатальнага кроку».

Выданне прааналізавала выпадкі самагубстваў сярод дзяцей і падлеткаў за апошнія паўгода ў Расіі. Журналістка прыходзіць да высновы, што вельмі часта за такімі трагічнымі выпадкамі стаяць сумнеўныя суполкі ў сацыяльнай сетцы «Укантакце», дзе дзеці бавяць шмат часу.

Сімвалам самагубцаў стаў кіт, бо гэтыя жывёлы выкідваюцца на сушу. І адміны суполак пішуць кшталту: «Ведаеш, ад чаго кіты выкідваюцца на бераг? Ад адчаю». Выданне папярэджвае: калі вашы дзеці малююць кітоў, гэта можа быць не так міла, як падаецца на першы погляд.

У якасці атрыбуту выкарыстоўваецца таксама кніга Стэйса Крамера «50 дзён да майго самагубства». Гэта раман з апісаннямі перажыванняў дзяўчыны-падлетка, якая вырашыла, што за 50 дзён вырашыць, ці ёй жыць, ці памерці. І некаторыя ўдзельнікі такіх суполак прызначаюць свае «50 дзён».

Удзельнікам прапануецца разгадваць «сэнсы» і «ісціну», праз шэраг нейкіх задачак і шарад, якія могуць быць часткова напісаныя на іўрыце ці лаціне, разбаўленыя цытатамі пра смерць з Бібліі, Карана ці Торы, таямнічыя лічбы. Натуральна, што ніякіх глыбінных сэнсаў у такіх пасланнях няма, а ідзе затуманьванне мазгоў.

**Перапіскі з «куратарамі» ў сацыяльных сетках пачынаюцца ў 4:20 раніцы. Самагубствы павінны адбыцца ў канкрэтны дзень і час**

«Новая газета» піша, што на апошнім этапе і адбываецца замбаванне ўдзельнікаў на самагубствы. Прычым здарыцца яно павінна ў канкрэтны час і дзень. Фактычна некаторыя суіцыды могуць анансаваць анлайн у такіх закрытых суполках.

Самагубствы падаюцца ў рамантызаваным і гераічным святле. Здымаюцца пастановачныя відэа, каб падмацаваць такія перакананні.

Адбываюцца такія перапіскі вельмі часта а 4:20 ночы. Дзеці звечара кладуцца спаць, аднак устаюць у гэты час, каб размаўляць са сваімі «куратарамі». У 6:00 яны зноў кладуцца ў ложак, каб бацькі ні пра што не здагадаліся.

Расійскія ўлады выдаляюць падобныя суполкі з «Укантакце», але на іх месцы паўстаюць новыя. Змагацца з гэтай з’явай дастаткова складана.

Варта адзначыць, што частка інтэрнэт-карыстальнікаў не паставілася ўсур’ёз да інфармацыі «Новай газеты». Напрыклад, *snob.ru* паведамляе, што інфармацыі аб самагубствах на падобных старонках у сацсетках былі фэйкавымі і пастановачнымі, а праблемы такой няма.

**Зміцер Панкавец**

# У Гомелі на Дзень Перамогі школьніцу папрасілі зняць георгіеўскую стужку

**Дырэктар школы прапанаваў замяніць яе на бутаньерку з яблыневым цветам.**

Цікавы выпадак адбыўся на святкаванні 9 Мая ў гомельскай школе №29.

Бацька адной з вучаніц Віктар Грыбоўскі напісаў на сваёй старонцы ў «Аднакласніках»: «Сёння, 9 мая 2016 года, на парадзе ў гонар дня перамогі, маю дачку (12 гадоў) педагогі са школы вывелі з шэрагу за наяўнасць георгіеўскай стужачкі!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!! З днём перамогі! Беларусь Гомель!!!» [Захаваная аўтарская пунктуацыя — «НН»].

Гэты допіс сабраў вялізны водгук у «Аднакласніках» — звыш за 5 тысяч лайкаў і амаль тысяча каментаў. Прыйшла вялікая колькасць каментатараў з Расіі, якія абураюцца такімі паводзінамі школьнай адміністрацыі.

Сам Віктар Грыбоўскі ў далейшых каментах адзначыў: «Калі так і далей пойдзе, то два варыянты: эміграцыя ці майдан». «Хутчэй за ўсё, гэта палітыка кіраўніцтва краіны», — робіць высновы бацька вучаніцы. «Гэта ганебна, хутка на лоб таўро будуць ставіць», — далей абураецца ён.

«Наша Ніва» патэлефанавала дырэктару СШ №29 Гомеля Уладзіміру Селядцову, каб ён падзяліўся сваім бачаннем інцыдэнту. Дырэктар быў у курсе гэтага выпадку.

«Усё было не так. Яе ніхто не выводзіў з шэрагу, а пытанне мы ўзгаднілі з маці дзяўчынкі, я асабіста з ёй размаўляў. Яна пагадзілася з нашымі аргументамі, — кажа спадар Селядцоў. — У нас было ўказанне, што ўсе дзеці ў «жывым калідоры» на святкаванні Дня Перамогі павінны былі быць з бутаньеркамі з яблыневым цветам. Ніхто з яе не здымаў георгіеўскую стужку, але мая намесніца па ідэалагічнай рабоце патлумачыла, што тут ва ўсіх павінна быць адзіная форма адзення. Пасля ўрачыстай часткі яна магла хадзіць з любой стужкай. Нашы аргументы былі прынятыя, і вучаніца надзела бутаньерку з яблыневым цветам. Гэта ўжо самі бацькі раздзьмулі скандал».




**Вось такая прапаганда была размешчаная на старонцы гамельчука, што адправіў сваю дачку з георгіеўскай стужкай замест беларускай.**

Георгіеўская стужка стала сімвалам расійскай агрэсіі на ўсходзе Украіны. У выніку свае ўнікальныя стужкі Перамогі былі створаныя як у Беларусі, гэтак і ў Казахстане. Цвет яблыні — мірны сімвал, не агрэсіўны.

Віктар Грыбоўскі посціць таксама на сваёй старонцы спасылкі, дзе стужка яблыневага цвету называецца «лухтой».

Праз нейкі час у рэдакцыю патэлефанавала маці дзяўчынкі, яна запэўнівала, што інцыдэнт вычарпаны, а георгіеўскія стужкі для яе сям’і з’яўляюцца святымі сімваламі. І сям’я будзе надалей насіць і шанаваць іх.

Сам Віктар Грыбоўскі выдаліў сваю публікацыю праз паўгадзіны пасля таго, як карэспандэнт «НН» патэлефанаваў дырэктару школы.

**Зміцер Панкавец**



## Сцісла

### Дэкрэтны адпачынак стане абавязковым для мужчын?

Дэпутаты звярнуліся ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны з просьбай разабрацца, ці варта ўводзіць абавязковы для бацькі адпачынак па доглядзе за дзіцем.

Летась у дэкрэтах знаходзіліся 3097 мужчын (бацькаў і дзядуль), гэта толькі 1% мужчын, якія маглі б скарыстацца прапанаванай законам магчымасцю адпачынку. «У грамадстве недаацэньваецца ўдзел мужчын у выхаванні дзяцей, недаацэньваецца і самімі мужчынамі», — адзначаюць у Мінпрацы.

### Вялікія кватэры ў Мінску купляюць ужо менш чым па $1000 за метр

Цэны на нерухомасць у Мінску працягваюць зніжацца. Сярэдняя цана рэальных угодаў у красавіку 2016 года склала $1077 за квадратны метр. За месяц лічба ўпала на 3,1%.

### Журналіст адсудзіў 8 мільёнаў кампенсацыі за месяц у СІЗА КДБ

У 2012 годзе фатограф Антон Сурапін больш за месяц правёў у следчым ізалятары па падазрэнні ў тым, што дапамагаў арганізатарам дэсанту шведскіх плюшавых мядзведзікаў нелегальна трапіць у Беларусь. Пасля яго вызвалілі пад падпіску, а потым і наогул знялі абвінавачанні. Сурапін ацаніў сваю маральную шкоду на 190 мільёнаў рублёў, аднак суд прысудзіў яму толькі 8 мільёнаў.

**БЮ**

## Апытанне на nn.by

**Вы за тое, каб дэкрэтны адпачынак для мужчын стаў абавязковым?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 290 | 25% |
| Не | 110 | 10% |
| Хай бы было па жаданні, як цяпер | 503 | 43% |
| Я за тое, каб мужчыны нараджалі | 254 | 22% |

Прагаласавала 1157 чалавек.

## Самае чытанае на nn.by за 11 — 17 мая

1. Праз Віцебскую епархію школьнікаў адпраўлялі ў Расію ў трэніровачныя лагеры пад кіраўніцтвам неанацыстаў
2. Украіна перамагла дзякуючы змене сістэмы галасавання — цікавыя падлікі
3. У Мінску ля помніка Янку Купалу прайшоў Беларускі нацыянальны кангрэс
4. Віцебскі святар пра паездкі школьнікаў на зборы з баевікамі з «ДНР»: «Мы ездзілі ў Расію, ездзім і будзем ездзіць»
5. «Я не змагу адпрацаваць тут год!» — крык душы навучэнца, якога чакае размеркаванне на МАЗ
6. Амерыцый: як засцерагчыся ад смяротна небяспечнага прадукту распаду плутонію, выкінутага Чарнобылем
7. У цэнтры Мінска прайшла акцыя «Праспект нацыянальнага сцяга»
8. Стала вядома, як на «Еўрабачанні» галасавалі беларускія тэлегледачы
9. У Гомелі на Дзень Перамогі школьніцу папрасілі зняць георгіеўскую стужку, бацькі абураныя
10. Пераможца «Еўрабачання-2015» выканаў абяцанне Ivan’a і выйшаў на сцэну голым з ваўком

# Беларускі нацыянальны кангрэс: гучная назва, але вузкае кола

У нядзелю 14 мая апазіцыйныя палітыкі правялі ў мінскім парку Янкі Купалы ўстановачную сесію Беларускага нацыянальнага кангрэсу.

Што такое Беларускі нацыянальны кангрэс? Гэта наваствораная структура, якая мае мэтай аб'яднаць апазіцыю, забраць уладу ў Лукашэнкі і выправіць усе яго памылкі. У арганізатарах кангрэсу значацца Мікалай Статкевіч, Станіслаў Шушкевіч, Уладзімір Някляеў.

Установачную сесію хацелі правесці ў памяшканні, але ўлады адмовілі ў прадастаўленні пляцоўкі.

Таму нічога не заставалася, як сабрацца на вуліцы — месцам абралі парк Янкі Купалы.

Дэлегатаў сабралася недзе сто чалавек, калі лічыць разам з міліцыянтамі, якія былі ў парку хто па форме, хто ў цывільным.

Яшчэ да пачатку ўстановачнай сесіі стала зразумела, што (прынамсі, на першым этапе існавання) кангрэс не адпавядае сваёй галоўнай заяўленай мэце — аб'яднаць апазіцыю.



Гэта вынікала з таго, што ў парк не з'явіліся прадстаўнікі «Руху за свабоду», Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ, не было і «Гавары праўду» з Тацянай Караткевіч.

Арганізатары кангрэсу выступілі з кароткімі прамовамі.

Першым выступаў Шушкевіч. Пачаў ён з таго, што Канстытуцыя гарантуе беларусам права на зборы і сходы. Але ж міліцыя, маўляў, складае пратаколы замест таго, каб ахоўваць удзельнікаў. Далей Шушкевіч звярнуў увагу на тое, што нават у лядоўнях беларусаў відаць, да чаго прывяла палітыка Лукашэнкі.

А старшыня прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч у сваёй прамове крытыкаваў пенсійную рэформу і эканамічную палітыку ўладаў.

Пасля прамоваў прысутныя пачалі прымаць пастановы кангрэсу: удзельнікі, што атрымалі «мандат», паднялі рукі галасавалі за рэзалюцыі, што агучваў Статкевіч. Ліў дождж.

Першай прынялі рэзалюцыю «Беларусь: стан дзяржавы і нацыі».

У ёй гаворыцца, што дэмакратыя ў краіне ліквідаваная, а рэжым Лукашэнкі ў мэтах захавання ўлады распрадае тыя активы, якія з'яўляюцца падмуркам незалежнасці Беларусі: газатранспартная сістэма, вайсковая сфера, мова, тэлебачанне. Маўляў, праз датацыі Расіі Беларусь патрапіла ў пастку.

**Апытанне на nn.by**

**Хто, па-Вашаму, павінен стаць адзіным лідарам апазіцыі на сёння?**

| | | |
|---|---|---|
| Тацяна Караткевіч | 200 | 8% |
| Анатоль Лябедзька | 30 | 1% |
| Уладзімір Някляеў | 99 | 4% |
| Павел Севярынец | 136 | 5% |
| Мікалай Статкевіч | 1284 | 50% |
| Нехта новы | 264 | 10% |
| Пакуль такога не бачыцца, а будзе момант — будзе і лідар | 537 | 21% |

Усяго прагаласавала 2550.

Наступная рэзалюцыя называлася «Платформа часу». У ёй падсумоўвалася, што ўсіх удзельнікаў кангрэсу аб'ядноўвае хваляванне за эканамічны стан краіны, стан культуры, пагрозы незалежнасці дзяржавы. Менавіта для выратавання нацыі і будзе працаваць кангрэс.

Ну і асобна ад імя кангрэсу было заяўлена, што ў будучай парламенцкай кампаніі не павінна быць выпадкаў, калі на адным участку балатуюцца некалькі прадстаўнікоў апазіцыі, крадучы галасы адзін у аднаго.

Такім чынам, кангрэс вырашыў вызначыць і абвесціць адзіны спіс кандыдатаў у дэпутаты ад апазіцыі.

На гэтым установачную сесію кангрэсу закрылі.

**Арцём Гарбацэвіч**




# Мікалай Лукашэнка дагнаў ростам Дзмітрыя Мядзведзева

Аляксандр Лукашэнка і прэм'ер-міністра Расіі Дзмітрый Мядзведзеў правялі 12 мая нефармальную сустрэчу ў аграгарадку Александрыя. Сустрэча працягвалася больш за тры гадзіны.

Кіраўнік беларускай дзяржавы паказаў расійскаму госцю свае родныя мясціны. Аляксандр Лукашэнка і Дзмітрый Мядзведзеў пачаставаліся бярозавікам, сфатаграфаваліся на памяць ля роднай хаты беларускага лідара, а таксама пабывалі на Трафімавай крыніцы, адноўленай па даручэнні кіраўніка краіны каля трох гадоў таму.

Разам з Лукашэнкам і Мядзведзевым у Александрыі быў малодшы сын кіраўніка Беларусі Мікалай. Ростам 11-гадовы хлопец ужо зраўняўся з расійскім прэм'ерам.

**ЛМ**

# Скандынаўскія краіны спыняюць фінансаванне ЕГУ

Пра гэта гаворыцца ў паведамленні, апублікаваным на сайце Паўночнай рады — рады міністраў замежных спраў краін Скандынавіі і Балтыі.

Як гаворыцца ў тлумачэнні, гэта адбываецца ў сувязі з рэструктурызацыяй бюджэту з мэтай вызваліць сродкі для працы па інтэграцыі бежанцаў і мігрантаў. Падкрэсліваецца, што рашэнне грунтуецца на выніках працэсу, у якім прадметам абмеркавання былі роля і стратэгія ўніверсітэта.

Рашэнне можа быць таксама звязана з шэрагам скандалаў унутры ЕГУ, у прыватнасці, з прызначэннем рэктарам Дэвіда Поліка, а прэзідэнтам — Анатоля Міхайлава. Нядаўна Паўночная рада замаўляла аўдыт фінансавай дзейнасці ўніверсітэта, які выявіў магчымыя злоўжыванні з боку цяперашняй адміністрацыі.

Скандынаўскія краіны былі сярод галоўных фундатараў ЕГУ, разам з Еўракамісіяй.

Ва ўніверсітэце зрабілі заяву, што пакуль закрыццё ЕГУ не пагражае.

**Мікола Бугай**

# Падрыхтаваныя выступоўцы на сустрэчы з Лаўровым у Мінску прасілі адкрыць «Расійскія цэнтры» ва ўсіх абласных гарадах Беларусі

У Беларускім дзяржаўным універсітэце прайшла сустрэча кіраўніка расійскага МЗС са студэнтамі. Сяргей Лаўроў распавёў пра пазіцыю Расіі па праблемных пытаннях, уключаючы сірыйскае і украінскае.

«Працягам логікі «свой-чужы», якая праводзіцца ў рамках Усходняга партнёрства, стала сітуацыя ва Украіне, дзе адбыўся дзяржаўны пераварот. Новыя ўлады прыйшлі сілавым шляхам, развязалі братазабойчую вайну, атрымаўшы індульгенцыю з боку заходніх партнёраў, мэта якіх — зрабіць слабай Расію», — лічыць Лаўроў.

Выступ Лаўрова заняў прыкладна 15 хвілін, астатні час ён адказваў на пытанні з залы. Іх задавалі загадзя вызначаныя людзі, звычайным журналістам у магчымасці задаць пытанне адмовілі.

Віталь Арцёмчык (ГА «Рускае культурна-асветніцкае таварыства», клуб «Наследие» пры Беларуска-расійскім універсітэце) спытаў пра формы працы з моладдзю і выказаў пажаданне — адкрыць «Расійскія цэнтры навукі і культуры» ў Магілёве і ўсіх абласных гарадах краіны. На сённяшні дзень у Беларусі РЦНК працуюць у Мінску і Брэсце.

Лаўроў пагадзіўся з такой патрэбай і сказаў, што ў хуткім часе такі цэнтр адкрыецца ў Гомелі.

**Паводле tut.by**

# Беларускіх школьнікаў адпраўлялі ў Расію ў трэніровачныя лагеры пад кіраўніцтвам неанацыстаў

Працяг са старонкі 1

## «Страляеце па нагах»

І да гэтага чалавека, як высветлілася, возяць на выхаванне беларускіх дзяцей. Вось, напрыклад, фота (другое зверху) з «Велікодных вайскова-патрыятычных маладзевых збораў», якія прайшлі пад Масквой 6—9 мая сёлета. Перад групай падлеткаў у паласатай цяльняшцы стаіць Мільчакоў. Як пішуць арганізатары, зборы прысвячаліся «пачатку Другой сусветнай вайны і 100-годдзю Брусілаўскага прарыву».

Чаму ж вучыць Мільчакоў? Запіс адной з яго «лекцый» знайшоўся ў інтэрнэце: «Пачынаеце страляць знізу. Табе адразу ахраненна тады. Страляеце па нагах. У праціўніка афігенна дупу рве. Нават калі ён у броніку, ён упадзе. Таму што некаторыя вясёлыя людзі ў данецкім аэрапорце ўмудрыліся выйсці вось так на укра, сказаць «ні..я сабе», і ў...аць яму чаргу бранябойна-запальнага з калаша. Укр загарэўся, і, я думаю, ён падох, хутчэй за ўсё».

Арганізавалі гэтыя зборы дыверсійная група «Русіч» з «ДНР», карпарацыя баевікоў «ДНР» E.N.O.T і «Некамерцыйнае партнёрства па адраджэнні казацтва». Што гэта за арганізацыі?

«Галоўная мэта — узнаўленне рускага народа. Дзесяці інфармацыяй, а дзесяці «агнём і мячом» — паўсюль мы робім усё магчымае, ніколі не застаючыся абыякавымі», — пішуць пра сябе ЕНОТы і размяшчаюць відэа, дзе Гіркін-Стралкоў узнагароджвае іх за штурм Дэбальцава.

«Мы будуем тут рускую нацыянальную Чачню, дзе ўсё будзе толькі для рускага народа», — гэта ўжо баявік Славян з «Русіча» абазначае задачы свайго ўдзелу ў вайне на Данбасе.



Баевікі «Русіча» ў атачэнні беларускіх школьнікаў: Арсеня Касьяна, Андрэя Талерчыка ды іншых.

## Сям'я Гаўрылiных

Каго яны трэніруюць? Дзяцей, якія займаюцца ў розных г.зв. «вайскова-патрыятычных» клубах па ўсёй Расіі. Некалькі разоў на год правінцыйныя інструктары звозяць малалетак да прафесіяналаў з ЕНОТа і «Русіча», каб тыя ладзілі для дзяцей майстар-класы. Іх вучаць нажавому, тактычнаму, рукапашнаму бою, стральбе з розных відаў зброі. Сёлета на гэтыя зборы прывезлі таксама дзяцей з Віцебска, Друцка і Талачына, удзельнікаў «вайскова-патрыятычных» клубаў пры цэрквах Віцебскай епархіі.

А канкрэтна гаворка ідзе пра талачынскае «Праваслаўнае вайскова-патрыятычнае братэрства імя святых благаверных князёў Барыса і Глеба прыхода храма Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы», «казацкі» клуб «Вароты Паазер'я» (афіцыйна аформлены як «каманда Палаца творчасці дзяцей і моладзі г. Віцебска), Друцкі «Праваслаўны вайскова-патрыятычны клуб імя Архангела Міхаіла», а таксама вайскова-патрыятычны клуб «Школа выжывання» пры віцебскай арганізацыі афганцаў «Братэрства» (кіраўнік «Братэрства» — старшы прапаршчык запасу Валерый Ананчанка).

Усімі вышэйназванымі «вайскова-патрыятычнымі» клубамі кіруе адна сямейная пара Гаўрылiных — Таццяна і Міхаіл. У друцкім клубе пры прыходзе храма Раства Святой Багародзіцы Таццяна Гаўрыліна — «атаман». У афганскім «Братэрстве» — «член рады па рабоце з моладдзю». У расійскім «партнёрстве па адраджэнні казацтва» — «сотнік». Міхаіл жа паўсюль выконвае функцыі намесніка ў жонкі.



Баявік «Русіча» Аляксей Мільчакоў перад дзецьмі.



Мільчакоў паказвае «клас» на фоне забітага ўкраінскага вайскоўца.



Баявік Ян Славян Пятроўскі (справа) са сваім камандзірам Мільчаковым у падмаскоўным летніку. У іх у руках гранаты.



Вось чалавек, які трэніраваў беларускіх школьнікаў.

## Благачынне

Цяжар «патрыятычнага» выхавання моладзі з імі дзеляць іерэй Талачынскага благачыння Алег Плаксіцкі і старшы навуковы супрацоўнік Інстытута сацыялогіі РАН, казак Аляксандр Шаўчэнка.

Дарэчы, Гаўрыліны ўжо з'яўляліся ў беларускіх СМІ — мы пісалі, як у 19-ю аршанскую школу з дзіўным візітам прыехалі нейкія казакі. Тады Гаўрыліна ўручала дзецям «медалі» з расійскім трыкалорам. На фота з той сустрэчы побач з Гаўрылінымі і Шаўчэнкам можна пабачыць аднаго з «узнагароджаных» — 10-гадовага навучэнца 9-й віцебскай гімназіі Арсеня Касьяна. Яго ж можна заўважыць і на фота са збораў у Падмаскоўі. Побач — іншыя дзеці з Беларусі і інструктары ў зялёным камуфляжы. Хто яны?

Спінай да камеры, з шаўронам «Русіча», стаіць расійскі неанацыст Ян Пятроўскі з пазыўным Славян. Ён, як і яго камандзір-скуралуп Мільчакоў, пазіраваў для фота побач са знявечанымі трупамі ўкраінскіх салдатаў. Пятроўскі ўвесь у наколках — на грудзях у яго набіты «Зоненрад» — эмблема дывізій СС «Нордланд» і «Вікінг». Іншыя інструктары збораў мала чым адрозніваюцца ад Мільчакова і Пятроўскага.

Галоўны ідэолаг збораў — расійскі публіцыст Валерый Шамбараў, вядомы такімі творамі, як «Акультныя карані Кастрычніцкай рэвалюцыі», «Як русічы перамаглі Дарыя і Македонскага». На відэа з леташніх збораў відаць, як ён расказвае дзецям, што «бандэраўцаў» трэніруюць амерыканскія дэсантнікі, таму вас, маўляў, таксама будуць трэніраваць людзі з баявым досведам, але «нашы, рускія». Пры гэтым вітаюцца з дзецьмі словамі «Хрыстос уваскрос».

## Праваслаўныя летнікі з элементамі тактычнага бою

Аўтаматы, імперскія сцягі — вось дык патрыятычнае выхаванне для школьнікаў-беларусаў! Але


Гаўрыліна ўручала дзецям «медалі» з расійскім трыкалорам.



Падчас сустрэчы ў Оршы: злева Таццяна Гаўрыліна, за спінай дзяўчыны — муж Таццяны, а справа — Шаўчэнка.

як туды занесла беларускіх дзяцей? Аказваецца, чарнасоценскі квартэт Плаксіцкага, Гаўрыліных і Шаўчэнкі займаецца «патрыятычным» выхаваннем з 2013 года. Працавацъ «вайскова-патрыятычныя» клубы адразу пачалі пад куратарствам расійскай арганізацыі «Некамерцыйнае партнёрства па спрыянні адраджэнню казацтва «Кубанская казацкая асацыяцыі «Расія».

Ад 2013 года «партнёрства» пачало арганізоўваць для дзяцей з Віцебскай епархіі праваслаўныя летнікі, дзе іх навучалі і вайсковай падрыхтоўцы. Абсталяванне для адпрацоўкі тактычнага бою даваў віцебскі лазертаг-клуб «Кольт».

Відэа са збораў, арганізаваных Талачынскім благачыннем і расійскім казацкім «партнёрствам», можна пабачыць у інтэрнэце на ютуб-канале праваслаўнага святара Алега Плаксіцкага.

Гаўрыліны — таксама сябры гэтай «Кубанскай казацкай асацыяцыі». Таццяна — «сотнік», яе муж — «падхарунжы».

**«Я ведала, куды яны едуць»**

Што думаюць бацькі тых дзяцей, якія пабывалі ў лагерах чарнасоценцаў? Мы пагаварылі з бацькамі Арсеня Касьяна і Андрэя Талерчыка.

«Я ведала, куды яны едуць. Яны ехалі з кіраўніком, а кіраўнік ужо ведае, хто там чым займаецца. Мы ўжо год там займаемся і давяраем гэтай жанчыне. Сыну падабаецца — сустрэчы для нас арганізоўвалі розныя, і ў Оршу мы ездзілі, сустракаліся з кадэтамі. Мы грамадзяне сваёй краіны і патрыёты. Гэта проста як для хлопчыка — вайсковая падрыхтоўка. Я разглядаю ў гэтым ключы. Пакуль у мяне ніякіх падазрэнняў не выклікае», — сказала Вольга, маці малога Арсеня.

Мы пацікавіліся ў яе, як патрыятызм спалучаецца з расійскімі шаўронамі, што яе сын носіць на сваім кіцелі. «Гэта ён мяне папрасіў нашыць», — сказала жанчына.

Прычым, расказала Вольга, у клуб яны трапілі выпадкова. «Муж па восені ўбачыў каля маладзевага цэнтра дзяцей у камуфляжнай форме, спытаў, што гэта ў іх тут. Яму сказалі, што клуб. Ён кажа: можна да вас? Ну вось так было. А за паездку гэтую мы нядорага аддалі — 500 рублёў «расіі» [каля 150 тысяч беларускімі]», — дадала жанчына.

А вось маці Андрэя Талерчыка з жахам сказала, што яна не ведала, якія інструктары будуць на «зборах», і перастала здымаць слухаўку.

Дазваніліся мы і да старшыні віцебскай афганскай арганізацыі «Братэрства» Валерыя Ананчанкі. Менавіта праз гэтую арганізацыю ў лагер трапіў той самы Талерчык.

Ананчанка сказаў, што ён «нічога не ведае», і абяцаў «разабрацца». Таксама ад яго мы даведаліся, што Гаўрыліна не мае дачынення да Афганскай вайны — паводле статута «Братэрства», для сяброўства дастаткова быць паўналетнім і мець цікавасць да афганскай тэмы.

Дарэчы, клубы Гаўрыліных бываюць і на вайскова-палявых выхадах, што арганізоўваюць яшчэ адны псеўдаказакі — «Казацкі спас» на чале з Пятром Шапко. Раней «Наша Ніва» пісала пра вельмі падобную сітуацыю ў Гродзенскай епархіі, дзе пры падтрымцы асобных святароў псеўдаказакі вядуць аналагічную актыўнасць.

Чаму могуць навучыць беларускіх дзяцей баевікі-галаварэзы? І чаму на антыбеларускую дзейнасць Гаўрыліных і падобных ім не рэагуюць сілавыя структуры? «НН» будзе сачыць за развіццём сітуацыі.

**Арцём Гарбацэвіч**


Злева белым пазначаныя баевікі «Русіча», у тым ліку Мільчакоў. А па цэнтры — малалетнія сябры «вайскова-патрыятычных» клубаў пры цэрквах Віцебскай епархіі разам са сваімі кіраўнікамі.

## Віцебскі святар: «Мы ездзілі ў Расію, ездзім і будзем ездзіць»

З просьбай патлумачыць, як так выйшла, што беларускія дзеці трапілі на зборы пад кіраўніцтвам неанацыстаў, мы звярнуліся да протаіерэя Аляксандра Кавалёва — кіраўніка аддзела па справах моладзі Віцебскай епархіі.

«Якія неанацысты? Напісаць і сфатаграфаваць можна што заўгодна, — адказаў ён. — Што да Мільчакова... А вы можаце на 100% пацвердзіць усё гэта? Калі б я верыў усяму таму, што бачу ў інтэрнэце і тэлебачанні, то ведаеце, я б даўно з глузду з'ехаў», — сказаў Кавалёў. На ягоную думку, усё напісанае — фэйк, створаны з мэтай «разладу».

«Чаму вам гэта так не падабаецца? Косткай у горле у вас тэма гэтая стаіць, — лічыць протаіерэй. — Ёсць вайскова-патрыятычныя клубы, яны павінны сустракацца адзін з адным, яны павінны разам спаборнічаць, гэтыя дзеці. Усё ў межах закона. А тое, пра што вы пішаце, гэта спецыяльна,каб гэтага не было. Але гэта будзе, разумееце, усё роўна гэта будзе», — сказаў Кавалёў.

«Я не пра фашыстаў кажу. Пра тое, што вайскова-патрыятычныя клубы былі, ёсць і будуць. Пад апекай казакоў, пад апекай былых вайскоўцаў, разумееце. Мы ездзілі ў Расію, ездзім і будзем ездзіць», — дадаў ён.

# Епархія ўсё адмаўляе

Сайт *tut.by* звязаўся са святаром Алегам Плаксіцкім, які фігуруе ў нашым расследаванні. Плаксіцкі як мог адмаўляў сваю датычнасць да вывазу дзяцей у летнікі неанацыстаў. «Я не ведаю, хто куды каго адпраўляў. Дзеці ад царквы ў Расію не ездзілі. З Таццянай Гаўрылінай мы не маем адносінаў ужо некалькі гадоў. Арганізаваны некалі сумесна казацкі клуб ужо даўно не існуе», — сказаў *tut.by* Плаксіцкі і дадаў, што ў яго два дзяды загінулі на вайне. Няўжо, маўляў, ён дазволіць вучыць дзяцей пад фашысцкімі сцягамі?

Але ў арганізатараў збораў, карпарацыі баевікоў «Е.Н.О.Т», ёсць суполка «Укантакце», прысвечаная зборам пад Масквой. Створаная гэтая старонка 3 сакавіка 2016 года — за два месяцы да збораў. Да суполкі далучыўся 351 удзельнік, сярод якіх мы знайшлі і святара Алега Плаксіцкага!

А кіраўнік аддзела па рабоце з моладдзю Віцебскай епархіі Аляксандр Кавалёў сказаў *tut.by*, што інфармацыя «Нашай Нівы» — фэйк і што дзеці даўно не ездзілі ні ў якія лагеры ў Расію. Між тым карэспандэнту «НН» ён раней сам сказаў, што «мы [маюцца на ўвазе «вайскова-патрыятычныя» клубы — **АГ**] ездзілі ў Расію, ездзім і будзем ездзіць».

Аўдыёзапіс размовы з Кавалёвым мы публікуем на сайце *nn.by*.

## «Гавары праўду» звярнулася ў пракуратуру з просьбай правесці праверку ўдзелу беларускіх школьнікаў у вайсковых зборах неанацыстаў

Пра гэта на сваёй старонцы ў фэйсбуку паведаміў Андрэй Дзмітрыеў, кіраўнік кампаніі.

«У сродках масавай інфармацыі з'явіліся трывожныя паведамленні пра тое, што ў маі 2016 года праз Віцебскую епархію і прарасійскія «патрыятычныя» арганізацыі, што дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі, група непаўналетніх беларускіх дзяцей была накіраваная ў ваенізаваныя трэніровачныя лагеры на тэрыторыі Расіі», — гаворыцца ў звароце «Гавары праўду» ў пракуратуру.

Далей аўтары звяртаюць увагу на ідэалагічную прыналежнасць інструктараў і факты іх удзелу ў вайне.

«Нам добра вядома, — пішуць у «Гавары праўду», — да якіх трагічных наступстваў прывяла дзейнасць гэтых баевікоў на ўсходзе Украіны. Няма ніякіх сумневаў, што «выкладчыкі» і «трэнеры» згаданых у паведамленнях СМІ лагераў вучылі беларускіх дзяцей экстрэмізму, неанацызму, здрадзе нашай Радзіме — Беларусі, нецярпімасці да людзей, якія не падзяляюць іх погляды што да адраджэння «вялікай імперыі».

«Расцэньваем такую дзейнасць арганізатараў, пасярэднікаў, палітычных і фінансавых спонсараў падобных лагераў як сур'ёзную пагрозу для маральнага стану беларускіх дзяцей. Лічым дзейнасць рэлігійных і грамадскіх арганізацый, якія займаюцца вярбоўкай дзяцей для ўдзелу ў падобных лагерах, несумяшчальнай з заяўленымі імі статутнымі мэтамі».

«У сувязі з выкладзеным вышэй прашу Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь:

— Правесці праверку фактаў, выкладзеных у паведамленнях СМІ, аб удзеле беларускіх дзяцей у дадзеных лагерах.

— Даць прававую ацэнку дзейнасці арганізатараў і пасярэднікаў дадзеных лагераў з беларускага боку.

— Забараніць уезд у Беларусь грамадзянам замежных дзяржаў, датычных да набору беларускіх дзяцей для ўдзелу ў ваенізаваных дзіцячых лагерах на тэрыторыі іншых краін», — значыцца таксама ў лісце за подпісам кіраўніка кампаніі Андрэя Дзмітрыева.

**АЯ**

# «Я б з радасцю пайшла на нармальную працу. Але тут яе проста няма»

**У Маладзечне міліцыя спрабавала затрымаць вулічную гандлярку. Але людзі яе адбілі.**

Раніцай 6 мая Таццяна Пакладок з Маладзечна, як звычайна, узяла свае торбы з расадай і пайшла на мясцовы «калгасны» рынак. Стала каля ўвахода побач з такімі ж гандляркамі, расклала тавар: маленькія кусцікі перцаў і клубніцаў, вырашчаныя на сваім участку, трохі кветак адтуль жа. Але ўжо каля 10-й на рынак завітала праверка. Рэйд рабіла камісія з прадстаўнікоў райвыканкама, санстанцыі, камунальных службаў. Быў і прадстаўнік міліцыі.

«Усіх пачалі папярэджваць, што тут гандляваць нельга, — расказвае Таццяна. — А да мяне прычапіліся — хтосьці з камісіі сказаў: «На яе трэба складаць паперу». Чаму — я не ведаю. Можа, таму, што я маладзейшая, а астатнія ўжо бабулі, што з іх узяць? Я пачала прасіцца, каб адпусцілі. Не, кажуць, трэба пісаць. Я перапужалася. Пачала сыходзіць — міліцыянт мяне спыніў і пачаў заломваць рукі, каб накінуць кайданкі».

Гэта версія Таццяны.

Версія міліцыі іншая. Маўляў, нелегальная гандлярка адмовілася назваць імя, а, калі міліцыянт прапанаваў ёй прайсці у пастарунак, спрабавала ўцячы і стала адштурхоўваць міліцыянта. Ён прыняў рашэнне «ўжыць спецсродкі».

Таццяна пацвярджае, што сваё прозвішча называць не хацела, але, кажа, міліцыянта не штурхала, гэта ён яе схапіў.

«Я закрычала. Пачалі падыходзіць мінакі. Міліцыянт рукі выкручваць перастаў, але не адпусціў. На левую руку мне надзеў кайданкі і прычапіў да сябе», — распавядае жанчына.

Людзей вакол збіралася ўсё больш, пачалі здымаць выпадак на тэлефоны. Міліцыянт па рацыі выклікаў «падмогу».

«Назваць сваё прозвішча міліцыянт адмаўляўся, хаця шмат хто пытаўся. Тыя жанчыны з камісіі сталі воддаль нас. А калі пачалі здымаць і іх, хуценька сышлі», — узгадвае Таццяна.

Міліцыянт з Таццянай дзве гадзіны стаялі пасярод вуліцы ў атачэнні натоўпу, счэпленыя кайданкамі. Народ абураўся. Нарэшце пад'ехаў начальнік РАУС Валянцін Асіповіч і загадаў адпусціць жанчыну.

Яна перахвалявалася, ёй стала блага. Хтосьці з натоўпу выклікаў хуткую. Таццяну забралі ў бальніцу: ціск быў каля 200. Таксама яна трохі пашкодзіла кайданкамі звязкі на руцэ. На наступны дзень Таццяна з маці пайшлі ў міліцыю — на прыём да Асіповіча. Ён параіў зрабіць афіцыйную экспертызу пашкоджанняў, якія атрымала жанчына.

«Але не выбачыўся. Ніхто так і не выбачыўся», — кажа Таццяна.

Таццяне Пакладок 40 гадоў. Яна жыве разам з 9-гадовай дачкой, гадуе дзіця сама. Усё жыццё Таццяна пражыла ў Маладзечне.



Адвучылася на кухаракандытара, затым на прадаўца. Працавала ў сталовай, затым займалася прадпрымальніцтвам, амаль 15 гадоў гандлявала на рынку адзежай. Калі гандляроў абавязалі набыць і ўсталяваць «павільёны» — металічныя кантэйнеры з ралетам, — з прадпрымальніцтвам скончыла. Тыя кантэйнеры каштавалі для яе задарага.

Пайшла на малочны завод, працавала рабочым на прыёмцы малака. У яе абавязкі ўваходзіла падключаць шланг да машыны, зліваць малако, прыбіраць, калі штосьці выліласся.

«Увесь час на вуліцы: і ўзімку, і ўлетку. Але не скажу, што праца была вельмі цяжкая. І графік мяне задавальняў — з 8 да 17, субота і нядзеля выходныя. Быў час на дачку. Але потым вярнуўся чалавек, які раней атрымаў траўму на вытворчасці. І ён пайшоў у мае змеНшчыкі. Сталі працаваць 2 дні праз 2 па 12 гадзін. Мне гэта не вельмі пасавала, — кажа Таццяна. — Затым скончыўся кантракт. Я сышла».

Аніякай іншай працы не знаходзілася. Знаёмы прапанаваў ёй стаяць на вуліцы і прадаваць дзіцячыя цацкі. Таццяна пагадзілася.

«Ну і трапілася я з тымі цацкамі за незаконны гандаль. На той момант ІП яшчэ не было закрытае, але ж падаткі я не сплачвала, — прызнае сама Таццяна. — Але што было рабіць? Трэба было неяк карміць дачку».

Увосень мінулага года яна пайшла і стала на ўлік як беспрацоўная. Але за даволі працяглы тэрмін — больш за паўгода — прымальных варыянтаў працы не знайшлося. Таму яна час ад часу гандлюе тым, што зможа вырасціць на сваім невялічкім зямельным надзеле. Ну і плюс вельмі дапамагае маціпенсіянерка. Па словах Таццяны, агулам выходзіць прыкладна 2—3 мільёны на месяц. За гэтыя грошы яны і жывуць з дачкой.

«Мне ад цэнтра занятасці прапаноўвалі ісці на завод ад БелТІЗ (Беларускае таварыства інвалідаў па зроку — **Рэд.**), збіраць нейкія дэталі. Але заробак там — каля мільёна. Ну што рабіць — я пайшла, але ў аддзеле кадраў сказалі, што ўжо няма месцаў. Затым прапаноўвалі ў Чысці працаваць памочнікам выхавацеля. Заробак дзесьці 2 мільёны. Але я вымушаная была адмовіцца: туды трэба ездзіць, позна вяртацца. А ў мяне ж дачка. Яшчэ была вакансія — у дзіцячы лагер рабочым на кухню, — але туды я не змагла пайсці, праходзіла абследаванне ў бальніцы», — кажа Таццяна.

Месяц яна правяла ў бальніцы, але дактары не вызначыліся з дыягназам. На 24 мая жанчыне прызначылі МРТ — яна пакажа, ці варта хвалявацца.

«Чакаю абследавання. А там ужо і буду глядзець, што рабіць далей. Як Бог дасць, так і будзе», — кажа Таццяна.

Пакуль яна працягвае гандляваць сваім простым таварам. Ізноў стаіць ля брамы рынка з расадай. Па яе словах, яна б стала і на рынку, але ўжо не дазваляюць.

«Раней я стаяла і на рынку, плаціла за месца. Але там не заўсёды іх хапае. Калі не хапае — станаўлюся на вуліцы.

Да таго ж пасля інцыдэнту кантралёр сказала, што ў мяне павінна быць даведка, што я маю надзел, дзе вырошчваю свае саджанцы, і даведку з флюараграфіяй. І пакуль я не прынясу паперы, на рынак мяне не пусцяць. Раней анікога гэта не цікавіла, пра тую даведку аб надзеле я ўвогуле першы раз чую. Ну, пайду ў выканкам па яе, што ж зробіш», — паціскае плячыма Таццяна.

Затым, па яе словах, — ізноў на рынак, ужо з даведкай. Бо больш ісці няма куды.

«Я б з радасцю пайшла на нармальную працу замест таго, каб стаяць на вуліцы з той расадай. Але тут, у Маладзечне, працы проста няма», — тлумачыць жанчына.

**Улад Швядовіч,**
**Маладзечна—Мінск**

# На Вайсковых могілках Мінска збіраюцца пабудаваць прыхадскі дом проста над магіламі

Чытач перадаў у Рэдакцыю «НН» буклет, атрыманы ў Аляксандра-Неўскай царкве на Вайсковых могілках Мінска. У ім — заклік ахвяраваць на «комплексную рэарганізацыю і рэстаўрацыю» храма і прылеглай тэрыторыі. У буклеце з факсіміле дабраслаўлення мітрапаліта Паўла адзначаецца, што, апроч рэстаўрацыі храма, будаўніцтва брамаў на ўваходах на могілкі, праект прадугледжвае «рэарганізацыю часткі могілак, прылеглай да храма». Агароджы, крыжы і пастаменты, «якія не маюць гістарычнай і эстэтычнай каштоўнасці», будуць прыбраныя, тэрыторыю замосцяць пліткай (былыя магілы будуць пазначаныя іншым колерам пліткі ці газонамі). Таксама, адзначаецца ў буклеце, запланаванае будаўніцтва парафіяльнага дома. Як можна меркаваць з малюнка на буклеце, ён мае паўстаць проста на могілках, за царквой. Ці магчыма паставіць такую будыніну, не парушыўшы косткі памерлых?

Так супала, што ў той самы час на агароджах многіх пахаванняў Вайсковых могілак адміністрацыя павесіла шыльды з папярэджаннем: калі за наступныя два гады магілы не будуць «добраўпарадкаваныя», надмагільныя збудаванні могуць быць дэмантаваныя. Прычым такія цыдулкі з'явіліся і на цалкам дагледжаных магілах.



Предложение
по комплексной реорганизации
и благоустройству территории
и комплексному ремонту
храма Александра Невского
на Военном кладбище в г. Минске



Справа павінен стаяць парафіяльны дом, хоць магілы размешчаны ўпрытык да храма.

Сяргей Тур, намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце «Спецкамбіната КБА», запэўнівае, што ніводная магіла не будзе пашкоджаная ці знесеная. «Усяго было знойдзена больш за 2300 закінутых пахаванняў. Сёння на Вайсковых могілках пахавана больш за 7000 чалавек. У жніўні 2017 года мы будзем добраўпарадкоўваць закінутыя магілы, калі не знойдзем сваякоў. Але ніводнае пахаванне не будзе знесенае, будзе проста добраўпарадкаванне могілак. У выпадку, калі помнік, крыж ці іншыя надмагільныя збудаванні нельга будзе аднавіць, на яго месцы будзе пастаўлены адзін з варыянтаў ідэнтыфікацыйных знакаў. Гэта будзе ці крыж, ці тумба, ці пастамент — пакуль гэта знаходзіцца на зацвярджэнні ў Мінгарвыканкаме».

Прадстаўнік «Спецкамбіната КБА» адзначыў, што будаўніцтвам парафіяльнага дома і добраўпарадкаваннем тэрыторыі займаецца непасрэдна храм, але без дазволу Мінгарвыканкама і Міністэрства культуры яны нічога не змогуць будаваць.

У прадстаўнікоў Аляксандра-Неўскага храма сваё бачанне сітуацыі. Там сцвярджаюць, што парафіяльны дом спраектаваны такім чынам, што пахаванняў не парушыць. Той варыянт праекта, які можна пабачыць на малюнку буклета, у Мінгарвыканкаме ўжо «завярнулі», кажа Мікалай Лук'янчык, галоўны архітэктар па рэстаўрацыі і добраўпарадкаванні часткі могілак у ахоўнай зоне храма. Цяпер на разгляд прапанаваны другі праект: парафіяльны дом цалкам будзе стаяць на слупах-арках. Праектанты плануюць паставіць іх, не пашкодзіўшы пахаванні. А на другім паверсе дома будуць пакоі, дзе святары змогуць пераапранущца і адпачыць. «Гэта такія знакавыя могілкі, а людзі не могуць, прабачце, у туалет схадзіць, бо яго няма, не могуць заехаць машыны, калі прывозяць целы для адпявання, і бацюшкам няма дзе пераапрануцца», — кажа Лук'янчык. Падвод каналізацыі і водаправоду да парафіяльнага дома, паводле яго словаў, таксама будзе зроблены над зямлёй.

Праўда, надмагіллі каля царквы, якім пашчасціць перажыць перыяд будоўлі, наўрад ці захаваюцца ў ранейшым выглядзе: найхутчэй, крыжы і абгародкі знясуць, а прастору пад аркамі замосцяць пліткай. «Паглядзіце, колькі неўпарадкаваных магілаў каля храма! — адзначае Лук'янчык. — Мы ж прапанавалі зрабіць проста мемарыяльныя пліты, а побач пракласці дарогу, каб людзям было дзе развярнуцца».

**Мікіта Недаверкаў**

# На «Еўрабачанні» перамог крык душы крымскіх татараў

Пераможцай «Еўрабачання-2016» стала ўкраінская спявачка Джамала — 32-гадовая крымская татарка Сусана Джамаладзінава. Яе песня была прысвечаная прымусовай дэпартацыі крымскіх татараў у 1944 годзе. 18 мая адзначаецца чарговая гадавіна той трагедыі.

Букмекеры лічылі фаварытамі трох выканаўцаў. Апроч украінкі, высока каціраваліся карэянка Дамі Ім, якая прадстаўляла Аўстралію, і Сяргей Лазараў з Расіі.

Лазараў — адзін з тых нямногіх жыхароў Расіі, хто не падзяляе імперскую палітыку сваёй дзяржавы. «Для мяне Крым — не Расія. Уся гэта супольная радасць з нагоды нібыта вяртання Крыма — я ўсёй гэтай эйфарыі не падзяляю. Мне прапаноўвалі выступіць у Крыме, але я адмовіўся... Я не буду браць удзел у мерапрыемствах, дзе крычаць «Крым наш», — казаў ён пазалетась.

Афіцыйныя вынікі «Еўрабачання-2016» выглядаюць наступным чынам:

1. Украіна — 534 балы.
2. Аўстралія — 511 балаў.
3. Расія — 491 бал.
4. Балгарыя — 307 балаў.
5. Швецыя — 261 бал.

З табліцы можа скласціся ўражанне, што барацьба паміж трыма прызёрамі ішла да апошняй хвіліны. Інтрыгу ўдалося падтрымаць дзякуючы новай сістэме падліку галасоў, прапанаванай шведамі. Яны выкарыстоўваюць яе ў нацыянальным адборы.

Спачатку называліся вынікі галасавання прафесійнага журы (тут перамагла Аўстралія), а пасля — вынікі глядацкага галасавання (першынство за Расіяй). У выніку ж перамагла Украіна.

Гэта дало падставы расійскаму шоу-бізнэсу ўзняць істэрычны вэрхал: маўляў, у расійскага спевака скралі перамогу. Да гонару самога Лазарава адзначым, што ён тактоўна павіншаваў Джамалу з перамогай.

Але якім быў бы вынік «Еўрабачання», калі б захавалася ранейшая сістэма падліку? Нагадаем, раней у кожнай краіне сумяраваліся вынікі галасавання журы і гледачоў у прапорцыі 50/50.

Пры ранейшай сістэме падліку тройка пераможцаў выглядала б наступным чынам:

1. Аўстралія — 323 балы.
2. Украіна — 273 балы.
3. Расія — 232 балы.

**«1944»**

Калі прыходзяць незнаёмцы…
Яны прыходзяць у твой дом,
Яны забіваюць вас усіх і кажуць:
«Мы не вінаватыя,
не вінаватыя».

Дзе ваш розум?
Чалавецтва плача.
Вы думаеце, што вы богі,
Але ўсе паміраюць,
Не глытайце маю душу,
Нашы душы.

Я не магла правесці
сваю маладосць там,
Бо вы забралі мой свет.
Мы маглі б пабудаваць будучыню,
Дзе людзі свабодна жывуць
і любяць,
Шчаслівыя часы..

Дзе вашыя сэрцы?
Чалавецтва, квітней.
Вы думаеце, вы богі,
Але людзі паміраюць.
Не глытайце маю душу,
нашы душы.

Я не магла правесці
сваю маладосць там,
Бо вы забралі мой свет.
У мяне не было Айчыны.


AP PHOTO/MARTIN MEISSNER

Татарка Джамала скарыла Еўропу сваёй шчырасцю.

**«1944» — гэта гісторыя маёй сям'і»**

«Усе мае сваякі пацярпелі ад гэтай гісторыі. 1944 — гэта год, які змяніў жыццё маёй прабабулі Назыл-хан назаўжды, яна так і не вярнулася ў Крым.

18 мая 1944 года яе з пяццю дзецьмі а 4-й раніцы пагрузілі ў вагон, зачынілі і павезлі ў Сярэднюю Азію без вады і ежы, як тысячы крымскіх татараў.

Два-тры тыдні іх везлі, і па дарозе яна страціла сваю дачку. Яна папрасіла салдата пахаваць яе па дарозе, на што атрымала адмову, і дзіця выкінулі з вагона, проста як смецце…

Мы вярнуліся недзе ў 1989—1990 годзе. З самага дзяцінства мой тата быў апантаны вяртаннем менавіта ў Маларэчанскае, у Кучук-Узень, як яно тады называлася.

Гэта песня аб вяртанні дадому, пра тое, што чалавек абавязкова павінен памятаць свае карані. Калі чалавек дакладна разумее, адкуль ён, хто яго продкі, яму лягчэй спраўляцца з псіхалагічнымі цяжкасцямі ў жыцці.

**З інтэрв'ю Джамалы пасля перамогі на «Еўрабачанні»**



**За прадстаўніцу Аўстраліі прагаласавала прафесійнае журы еўрапейскіх краін.**



**Сяргей Лазараў з Расіі стаў лідарам глядацкага галасавання.**

Пераможцам «Еўрабачання» ў такім разе стала б Аўстралія. А вось Расія ўсё адно не змагла б прэтэндаваць на першынство.

Ніхто не хавае, што «Еўрабачанне» — шмат у чым палітызаваны конкурс. Расійскае журы паставіла ўкраінскую ўдзельніцу на перадапошняе месца, а паэтка Ларыса Рубальская ўвогуле палічыла Джамалу найгоршай з выступоўцаў. І гэта пры тым што гледачы паставілі канкурсантку на 2-е месца.

Не дзіва, што і ўкраінскае журы не дало расійскаму спеваку ніводнага бала, хоць гледачы аддалі Лазараву «золата».

Падобная сітуацыя і з астатнімі краінамі, якія пацярпелі ад расійскіх (і савецкіх) умяшальніцтваў за апошнія стагоддзе: журы Эстоніі, Фінляндыі, Венгрыі, Польшчы, Грузіі ігнаравалі Сяргея Лазарава, тады як галасы рускай дыяспары ўздымалі яго наверх.

Напрыклад, гледачы Літвы і Чэхіі паставілі Расію ў тройку належшых, але, па меркаванні журы, Лазараў быў найгоршым сярод усіх канкурсантаў.

Дзеля справядлівасці адзначым, што ёсць удзельнікі, якія, наадварот, пастаянна дэманструюць падтрымку прадстаўнікам той ці іншай краіны. Напрыклад, журы Кіпра — буйнога расійскага афшора — фактычна аднагалосна паставіла Расію на першае месца. Тая ж сітуацыя ў Грэцыі.

**Ягор Марціновіч**

**Як галасавалі беларусы?**

| | Тэлегледачы | Журы |
|---|---|---|
| 12 балаў | Расія | Расія |
| 10 балаў | Украіна | Літва |
| 8 балаў | Азербайджан | Швецыя |
| 7 балаў | Арменія | Украіна |
| 6 балаў | Польшча | Аўстралія |
| 5 балаў | Латвія | Мальта |
| 4 балы | Балгарыя | Бельгія |
| 3 балы | Венгрыя | Арменія |
| 2 балы | Швецыя | Азербайджан |
| 1 бал | Аўстралія | Балгарыя |

**Хто ўваходзіў у беларускае журы?**

Спявак Тэа і Аляксандр Капёнкін з «БелМузТБ» паставілі на першае месца Расію.

Кампазітар Генадзь Маркевіч і спявачка Вольга Плотнікава налічылі максімальны бал Літве.

А вось прадзюсарка Вольга Драздова аддала перамогу Украіне.

# Ivan стаў 29-м

**Яго падтрымалі ўкраінцы і палякі, але для выхаду ў фінал гэтага было недастаткова.**

Для беларускага спевака *Ivan'а* выступ на «Еўрабачанні» абмежаваўся паўфіналам. У другі конкурсны дзень выступалі 18 выканаўцаў, з іх у фінал праходзілі дзесяцера. *Ivan* у іх лік не патрапіў.

Як і планавалася, спявак выйшаў на сцэну з ваўкамі, але не сапраўднымі, а галаграфічнымі, намаляванымі ў паветры.

Вобраз *Ivan'а*, прыдуманы расійскім прадзюсарам Віктарам Дробышам, быў запамінальны — каб пажартаваць з беларуса, падчас другога паўфінала шведскі вядучы выйшаў на сцэну голым з плюшавым ваўком у руках.

Паводле меркавання тэлегледачоў, беларускі выканаўца заняў у сваім паўфінале 9-е месца. Найбольшую колькасць балаў ён атрымаў ад Украіны, Польшчы, Латвіі, Грузіі і Літвы. Адзначым, што ў паўфінале ўдзел у галасаванні бралі толькі краіны-ўдзельніцы. Напрыклад, жыхары Расіі і Арменіі не маглі падтрымаць беларуса.

Падтрымкі тэлегледачоў аказалася недастаткова. Прафесійнае журы ацаніла выступ *Ivan'а* ніжэй. Максімальны вынік — 6 балаў — ён атрымаў ад журы Балгарыі і Аўстраліі.

У выніку падсумавання галасоў Іван стаў у паўфінале 12-м, што не дазволіла яму прайсці ў фінал.

Усяго ж ён стаў 29-м з 42 удзельнікаў.

«Самае крыўднае, што Дробыш *& Co* вырашалі зразумелую задачу — папулярызацыі Івана ў Расіі.... І гэтую задачу яны выканалі! Упэўнены, што гастролі ўжо распісаны на год наперад. А Беларусь, як заўсёды, пралецела. Нават не пралецела, а засталася з голым азадкам *Ivan'а*», — падсумаваў прадзюсар Уладзімір Кубышкін у інтэрв'ю *kp.by*.

**БЮ**



# На фэст у Мінск прыязджае паганскі, антыхрысціянскі гурт з Украіны — вернікі выступаюць супраць

25—26 чэрвеня ў загарадным комплексе «Камарова», што недалёка ад Мінска, пройдзе фэст «Купальскае кола». Гэта штогадовая музычная сходка аматараў цяжкой музыкі. Ладзіць фестываль вядомы музыка, лідар гурту *Znich* Алесь Таболіч.

Здаецца, нямногія, апроч аматараў такіх спеваў, звярнулі б увагу на «Купальскае кола», калі б не той факт, што на фэст запрошаны дастаткова неадназначны гурт з Украіны *Nokturnal Mortum*.

Раней гэтыя хлопцы пазіцыянавалі сябе як «нацыянал-сацыялістычны блэк-метал». Гэта кірунак, які арыентаваны на нацысцкую тэматыку і адпаведную атрыбутыку.



Першым на гэта звярнуў увагу пратэстанцкі вернік, грамадскі актывіст Андрэй Кім.

«За лживость речей, за постройку церквей жидовское племя должно быть распято!» — гэта вытрымка з песні «В огне деревянных церквей» харкаўскага гурту Nokturnal Mortum. Гурт паслядоўна рэкламуе расізм, нацызм, сатанізм, антысемізм і антыхрысціянства. Не толькі ў тэкстах песень, але і ў інтэрв'ю іх лідар рэгулярна выказвае чалавеканенавісніцкія ідэі», — напісаў Андрэй Кім на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Яшчэ Кім прыводзіць цытату лідара *NM* аб хрысціянстве: «Хрысціянства — гэта духоўная і фізічная смерць, канец развіцця і руху наперад. Мы ні ў якай меры не адракліся ад святой вайны супраць іншароднага хрысціянства, а сталі яшчэ больш жорсткім і мацнейшымі», — кажа Яўген Гапон.

Супраць прыезду *Nokturnal Mortum* выступілі таксама сустаршыня аргкамітэта БХД Павел Севярынец і маладафронтавец Зміцер Дашкевіч.

«Арганізатарам, сярод якіх мой даўні знаёмы Алесь Таболіч, варта ўсё-такі прызнаць памылку і па-добраму паразмаўляць з гэтымі харкаўскімі музыкамі. Проста патэлефанаваць і сказаць: ну сябры, вы ж разумееце, тут людзі абураюцца, будзе скандал, ад якога выйграюць толькі Масква і Лукашэнка.

Паставіць умову, каб публічна адмежаваліся ад свайго ранейшага пекла. Зараз. Афіцыйную заяву Гапона. Калі не — аўфідэрзэйн. Перабіць рэкламу і цешыцца купальскімі матывамі гуртоў, не запэцканых у настолькі смярдзючым брудзе. Трываць такое — гэта знявага», — лічыць Павел Севярынец.

Прыхільнікі *Nokturnal Mortum* у сваю чаргу пераконваюць, што лідар гурту даўно змяніў свае погляды. У якасці прыкладу прыводзяць гэтыя словы з сацыяльнай сеткі «Укантакце». Дзеля справядлівасці, варта адзначыць, што яны дастаткова расплывістыя.

«Многія свае погляды, якія былі ў мяне ў мінулым, я не падзяляю сёння ў сілу шэрагу прычын: штосьці аказалася шалупінай, у чымсьці расчараваўся, нешта — не важна! Таму, напрыклад, калі пытаюцца мяне сёння пра мае палітычныя погляды, я адказваю, што я па-за гэтым, і гэта так і ёсць», — напісаў у кастрычніку 2014 года лідар *Nokturnal Mortum* Яўген Гапон.

Мы таксама папрасілі пракаментаваць сітуацыю арганізатараў «Купальскага кола». «Творчасць гурту *Nokturnal Mortum* на сённяшні дзень, як і ідэалагічная пазіцыя калектыву, не носяць неанацысцкага характару. У творчасці гурту на пачатковых этапах насамрэч сустракаліся некаторыя радыкальныя аспекты.

Некалькі год таму *NM* адкрыта заявілі аб сваім поўным недачыненні да радыкальнай плыні. Выступ гурту і сэт-ліст з заяўленымі тэкстамі прайшоў узгадненне ў гарвыканкаме і камітэце па ідэалогіі. На фестывалі прагучаць кампазіцыі, змест якіх не выклікае хваляванняў», — зазначыла ў каментары арганізатарка Наста Дубовік.

Многія адзначаюць, што з пачаткам вайны ва Украіне *Nokturnal Mortum* істотна змяніў свой рэпертуар, які стаў больш патрыятычным і праўкраінскім. А кавер на спеў *NK* «Україна» рабіў нават Алег Скрыпка з «Вопляў Відаплясава».

Арганізатары не збіраюцца адмаўляцца ад выступу *Nokturnal Mortum* на «Купальскім коле».

**Зміцер Панкавец**

Незвычайныя думкі

# «Беларусь пераняла ролю цывілізатара Расіі»

Вільня ўжо не тая. Нейкае адчуванне пусткі. Бязлюдныя вуліцы, пустыя кавярні, нават каля Вострай брамы ўвечары няма людзей, а як глянеш у бок лысай гары з вежаю, то тая пустка робіцца агіднаю. Карацей, дэпапуляцыя.

Незнарок прыгадваюцца часы, калі горад жыў па-іншаму, можа, не зусім правільна, але пэўна, што жыў. І ў будзённым гарадскім ландшафце, акрамя валацугаў з Беларусі, былі дзясятак-другі аўтобусаў з савецкімі турыстамі. Некаторыя нешта разглядвалі, сёе-тое запаміналі, можа, чамусьці і вучыліся. У савецкія часы Літва аказалася ў ліку ўсходнееўрапейскіх краінаў, што ўдзельнічалі ў міжцывілізацыйным культурным абмене паміж усходам і захадам Еўропы. Зразумела, што ніхто не пытаў іх аб згодзе, аднак працэс ішоў і меў вынікі, бо цяжка прагназаваць, як бы разгортваліся падзеі з СССР, калі б значная частка савецкіх афіцэраў разам з сем'ямі не прайшла б акультурацыю ў краінах усходняга блоку. На гэтых акупаваных тэрыторыях яны пэўна заўважылі нейкія іншыя культурныя вартасці і ў некаторай ступені зрабіліся іх распаўсюджвальнікамі. Сам быў такі, толькі малы.

Сёння, калі падарожнічаеш па Літве, міжволі ўсплывае: народ, які жыве для сябе, — гэта як і чалавек, які жыве для сябе... Або з'ява не зусім пазітыўная, і тут жа чаадаеўскае: «Народы — істоты маральныя...»

Пэўна, што калі моладзь з краіны пераехала на Захад і з'явілася перспектыва цэнтралізаванага папаўнення насельніцтва коштам сірыйскіх ці афрыканскіх мігрантаў, то гэта ўжо не зусім жыццё для сябе, але і не зусім тое, аб якім раней мроілі.

Доўгі ўступ, але размова не аб Літве, а аб Беларусі, бо так атрымалася, што Беларусь пераняла тую ролю цывілізатара, якую раней выконвалі больш паспяховыя суседнія краіны. Ды і хто яшчэ на такое здольны?

Зразумела, што рускія сёння ездзяць па ўсім свеце і бачаць розныя культуры. Аднак той рускі замежны корпус не заўсёды ў стане пераймаць, а тым больш перадаваць культурныя вартасці, маецца на ўвазе вартасці станоўчыя ў сацыяльным сэнсе. А калі




звыклы расіянін перакрочвае сімвалічную мяжу з Беларуссю, то адразу бачыць, што палі тут больш упарадкаваныя, менш смецця, дарогі лепшыя, нават кіроўцы больш культурныя... Адным словам, парадак і культура, і ўсё нягледзячы на сціплыя сродкі. А потым паназірае за людзьмі (за тымі, што цвярозыя), то ў яго яшчэ больш абвастраецца прысутнасць іншасці.

Застаецца толькі быць прыкладам і яшчэ больш імкнуцца абвастраць пачуцце культурнай іншасці, абвастраць там, дзе толькі можна. І трэба навучыць суседа, бо болей няма каму. Дзеля гэтай культурнай місіі і мовай авалодалі. У гэтай жа працы можа выкрышталізавацца наша самасць.

Хіба можна быць супраць таго, каб папрацаваць над культурным узроўнем нашых суседзяў, тым больш ДАІ так настойліва рэкамендуе?

**Даслаў чытач Сяржук Блізна**



# У цэнтры Мінска адкрылася вулічная выстава з вялікімі фотамі жанчын у нацыянальных строях



У межах Года культуры 18 мая Гістарычны музей адкрыў незвычайную арт-прастору ў сваім дворыку — выставу фотамастачкі Марыны Бацюковай «Сула. Непарыўнае».

Уражвае на ёй спалучэнне архітэктуры, фотамастацтва і медыя. У панараму будынкаў пачатку XX ст. удала ўпісаліся шырокафарматныя фотаздымкі вясковага абраду «Ваджэнне і пахаванне стралы». Ён захаваўся ў Пасожжы, дзе калісьці даўней жылі радзімічы.

Традыцыя свята пакаленнямі застаецца нязменнай: жыхаркі вёскі прыбіраюцца ў нацыянальныя строі, спяваюць і ідуць насустрач адна адной з розных бакоў вёскі, пакуль не сыдуцца ў адным карагодзе, ідуць, бесперапынна спяваючы да жыта.

**Сяргей Гудзілін**

Гіперактыўнасць

## У інтэрнэце шукаюць «лідара палітычнай партыі «Новая Зямля». Заробак — ад $400

Цікавая абвестка з'явілася на сайце *minsk.jobs.tut.by*. Імідж студыя «Вітрын» шукае лідара палітычнай партыі. «Партыя «Новая зямля» — гэта першая прагрэсіўная партыя Беларусі. Яна адстойвае інтарэсы людзей, якія працуюць, і беспрацоўных», — гаворыцца ў паведамленні.

Высветлілася, што лідара палітычнай партыі шукае піяршчык Марыя Храмцова. Яна ўжо з'яўлялася ў медыйнай прасторы летась падчас вылучэння прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта. Храмцова тады «прыдумала кандыдатку» Ірыну Першыну. Храмцова адкрыта прызнавалася, што Першына была абраная толькі праз руды колер валасоў. У яе ініцыятыўнай групе было 100 чалавек, але ЦВК адмовіла ў рэгістрацыі.

Храмцова называе тую кампанію «вывучэннем кухні палітычнага піяру». Цяпер у Марыі Храмцовай новы палітычны праект.

Яна лічыць, што шукаць палітычнага лідара праз абвестку — гэта абсалютна нармальна. «Калі чалавек валодае артыстычнымі дадзенымі, можа размаўляць з народам на адной мове, зразумелай і даступнай, то чаму не. Так робіцца заўсёды ў палітыцы», — кажа піяршчыца.

У вакансіі не быў пазначаны заробак лідара. Колькі ж можа атрымліваць старшыня «Новай зямлі»? «На першым этапе заробак будзе каля 400 даляраў, пасля — болей», — прызнаецца Храмцова.

**ЗП**

# «Беларусьфільм» абслугоўвае Расію, здымаючы дрэннае тэлевізійнае кіно»

Рэжысёр **Андрэй Кудзіненка** даў інтэрв'ю «Нашай Ніве».



**— Як ты лічыш, за гэты час ці з'явілася ў нас беларускае нацыянальнае кіно?**

— Быў савецкі кінематограф, безумоўна. Наколькі ён з беларускім «адлівам»? Лічу, што ў першую чаргу ён усё ж такі быў савецкім. І прадукцыя «Белдзяржкіно» — таксама не беларускі кінематограф. Сучаснае, напэўна, зараз нараджаецца. Усе гэтыя пацаны, якія сёння здымаюць «кароткі метр», я іх чакаў. Нарэшце, яны прыйшлі. Але ці будзе іх кіно нацыянальным, беларускім? Не ведаю. Касмапалітычным — так, з пэўнай рэгіянальнай афарбоўкай — так, але не думаю, што маладое пакаленне стварае сябе ў нацыянальным кантэксце.

Маладое пакаленне рэжысёраў любіць Мінск, мяркую, але нейкае асэнсаванне сваёй ідэнтычнасці, аўтэнтыкі... Не ведаю. Магчыма, стыль, нацыянальнае кіно як школа народзіцца само сабой. Але пакуль гэтага не бачна. Людзі здымаюць кіно незалежна ад дзяржавы. А што ў гэты час робіць «Беларусьфільм»? Кінастудыя, лічу, абслугоўвае суседнюю дзяржаву, здымаючы дрэннае тэлевізійнае кіно.

Шкада, што ў нас не так шмат сучасных пісьменнікаў, якія кажуць пра сучасную міфалогію. Глобус? Бахарэвіч? Іх павінна быць значна болей. Тым больш, што свет зараз, мне падаецца, зноў сыходзіць у міфалогію. З постмадэрнізму мы вяртаемся да рамантызму, мадэрнізму, да нацыянальных тэм. Тая ж Расія шукае сябе, сваю ідэнтычнасць, Украіна. Такі новы рамантызм.

Сёння — час кароткай формы. Раман даўно памёр. Доўгае кіно нікому не цікавае. Мяне заўжды засмучала, што кіно сышло ў атракцыён, фестывальны «міжсабойчык», а той кінематограф, які мы калісьці любілі, — знік. Так, засталіся пэўныя фестывалі, кіно паказваецца ў галерэях, музеях... Але гэтага не дастаткова. Трэба заваёўваць інтэрнэт. І як гэта рабіць — пакуль яшчэ не зразумела.

**Дар'я Локіс**

**Інтэрв'ю цалкам можна прачытаць на nn.by**

## На лабутэнах



**У суботу 14 мая ў Гродне прайшоў парад аркестраў Пагранічных войскаў. Аркестр беларускіх пагранічнікаў на трубах выканаў хіт «На лабутэнах».**

# Пуцін не змог адчыніць новы УАЗ падчас прэзентацыі…

…і тады генерал адарваў клямку аўто.

Смешны інцыдэнт адбыўся падчас агляду прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным новай тэхнікі для арміі. Генерал Аляксандр Шаўчэнка, які праводзіў экскурсію, паспяшаўся адчыніць дзверы аўтамабіля, але зрабіць гэта з першага разу яму не ўдалося. У выніку ён проста адарваў ручку, што вельмі пацешыла Пуціна.

Як патлумачылі спецыялісты, у дзвярэй «УАЗ-Патрыёт» аўтаматычная блакіроўка. Нібыта для таго, каб адчыніць іх, неабходна завесці аўтамабіль. Аднак пасля няўдалай спробы даць рады пярэднім дзвярам Шаўчэнка паспяхова адчыніў заднія дзверы без уключэння рухавіка.

**БЮ**



**Інтэрнаўты нарагаталіся з выразу твару кіраўніка Генштаба Расіі Валерыя Герасімава (у цэнтры), які быў у шоку ад «дыверсіі».**

# Па ўзроўні жыцця палякі перагналі грэкаў і здаганяюць партугальцаў

Агулам **узровень жыцця** заходнееўрапейцаў і ўсходнееўрапейцаў **выраўноўваецца**.

Польшча ўпершыню ў сучаснай гісторыі перагнала па ўзроўні жыцця краіну Заходняй Еўропы. Летась даход на душу насельніцтва ў Грэцыі быў меншы, чым у Польшчы. Пра гэта сведчаць дадзеныя МВФ.

Пры ўліку рэальнай пакупніцкай здольнасці ў 2015 годзе даход на аднаго жыхара Грэцыі склаў $26449, а даход на аднаго паляка быў на $6 вышэйшы. Па прагнозах МВФ, налета гэтая розніца складзе $1500.

У пачатку стагоддзя, калі Польшча ўступала ў Еўрасаюз, ад Грэцыі яе аддзяляла цэлая бездань.

У той час даход на душу насельніцтва ў Грэцыі складаў 96% ад сярэдняга даходу па ўсёй Еўропе, тады як у Польшчы гэты паказчык быў на ўзроўні 49%.

Акрамя таго, па дадзеных МВФ, ужо у 2018 годзе па ўзроўні жыцця палякі абгоняць партугальцаў.

**БЮ**

# Што трэба, каб жыць доўга?

Герыятры змянілі свае рэкамендацыі — шэсць галоўных.

У інтэрв'ю радыё «Свабода» пра гэта расказаў прафесар-герыятр, заснавальнік Беларускага рэспубліканскага геранталагічнага грамадскага аб'яднання Андрэй Ільніцкі.

**1. Фізічная актыўнасць.** Сусветная арганізацыя аховы здароўя патрабуе мінімальны ўзровень фізічнай актыўнасці — бег, хаджэнне пехатою, праца на гародзе, заняткі ў фітнэс-клубе, басейн — мінімум 150 хвілін штотыднёва.

**2. Абавязкова два разы на тыдзень патрэбныя практыкаванні для мышц рук.** Асабліва для людзей старэйшага ўзросту, бо гэта прафілактыка такога стану, як саркапенія — узроставыя змены мышцаў, калі яны робяцца больш млявымі, слабымі, не так слухаюцца чалавека, як у маладыя гады.

**3. Штодзённа спажываць 400 грам хрумсткай садавіны і гародніны чырвонага, жоўтага і сіняга колераў.** Менавіта ў ёй вітаміны і мікраэлементы, якія неабходныя для нармальнай жыццядзейнасці.

**4. Трэба кінуць курыць** і знізіць ужыванне алкаголю.

**5. Вельмі важна дастаткова піць, асабліва пасля 60–65 гадоў.** Цяпер мы не абмяжоўваем нашых старых у вадкасці і раім ім піць больш. Сталым катэгарычна забаронена адчуваць смагу.

**6. Канечне, трэба імкнуцца не сварыцца са сваімі блізкімі.** Прымаць жыццё такім, якое яно ёсць. А калі вам нешта не падабаецца — мяняйце гэта.



## Фотафакт

# Самыя прыгожыя футбалісткі Беларусі



**Настасся Харланава гуляе за «Мінск», раней яна выступала ў Гомелі. У анкеце на клубным сайце пазначана, што яна марыць гуляць «як Бэкхэм». Перажывае за зборную Германіі, а любімая страва — блінчыкі з мясам.**

**Глядзіце Топ-10 самых прыгожых футбалістак Беларусі на nn.by**

# Пуцін публічна загадаў віцэ-прэм'еру Рагозіну падцягнуць гальштук

Забаўны эпізод здарыўся перад пачаткам выніковай нарады расійскага генералітэту па абаронным комплексе. Уладзімір Пуцін, накіроўваючыся да свайго месца, нечакана зрабіў заўвагу віцэ-прэм'еру Дзмітрыю Рагозіну:

— Гальштук папраўце!

Гальштук у Рагозіна, чыё месца было праваруч ад Пуціна, сапраўды быў з'ехаўшы на бок.

Рагозін — расійскі віцэ-прэм'ер, адказны за абаронную прамысловасць. Ён вылучаецца ультраправымі і ультранацыяналістычнымі поглядамі.

Гнеў Пуціна нядаўна быў выкліканы зрывам запуску ракеты з новага касмадрома «Усходні», будаўніцтва якога курыраваў акурат Рагозін.

**Сяргей Гезгала**

# Герман Грэф пабываў у ЗША і быў ашаломлены ўбачанымі там новымі тэхналогіямі

**Амерыканцы ўжо ў стане цалкам паўтарыць біялагічны — не хімічны — працэс утварэння мяса і малака без наяўнасці жывёлы.**





Зроблена з раслін!

**Яшчэ выснова: англійская мова. Без англійскай нікуды**

Прапануем вашай увазе цікавыя ўрыўкі з выступу кіраўніка расійскага «Сбербанка» на «Сустрэчы лідараў» пасля вяртання з Сіліконавай даліны.

Дзве самыя галоўныя высновы, якія я вынес, парадаксальныя.

Першая: на самай справе, няма ніякай канкурэнцыі тавараў, прадуктаў ці паслуг. Ёсць канкурэнцыя мадэляў кіравання.

Кампаніі ўжо не канкуруюць за прадукт. Прадукт так хутка мяняецца, што бессэнсоўна спрабаваць нешта прайграваць.

### Мы толькі збіраемся на сустрэчу, а кітайцы ўжо капіююць

У *Uber* нам сказалі адну фразу, што канкурэнцыя з боку кітайцаў дайшла да такой ступені, што нам здаецца: калі мы раніцай прачнуліся з вельмі цікавай новай ідэяй з нагоды новых прадуктаў, то ў абед, калі мы збіраемся на сустрэчу, каб гэта абмеркаваць, кітайцы яе ўжо капіююць.

І гэта кажа пра тое, што яны не проста гэта навучыліся рабіць — яны пераймалі ў тым ліку і кіраўнічую сістэму, якая дазваляе рэалізоўваць усе гэтыя ініцыятывы з новымі хуткасцямі. Прайграць можна ўсё што заўгодна, і можна выйграць толькі за кошт больш эфектыўнай сістэмы кіравання, якая ўключае ў сябе ўсе аспекты. І ў тым ліку, і, можа быць, у першую чаргу — аспект культуры.

### Agility

Ні адна буйная кампанія не мае шанцаў выжыць у выпадку, калі яна не трансфармуе сваю мадэль кіравання.

*Google* ніхто не назаве маленькай кампаніяй або *Amazon* ніхто не назаве маленькай кампаніяй —але яны захоўваюць *agility*, такі спрыт, гнуткасць, хуткасць.

Усе буйныя кампаніі займаюцца зменай мадэлі кіравання: *Alcoa, Boeing, HP*.

Вытворчасць усяго «жалеза» [самых камп'ютараў, без праграмнага забеспячэння] у іх ужо цяпер лічыцца *commodities*. У нас *commodity* — гэта нафта, газ, угнаенні. Там ужо *commodities* — тэлефоны, тэлевізары, відэакамеры.

Ведаеце, я некалькі гадоў таму адчуў, што гэтую хуткасць нельга перадаць у словах, яе трэба перадаваць максімальна ў адчуваннях. Калі я скажу, што сённяшні год — гэта як пяць ці як сем 10 гадоў таму, я, напэўна, не вельмі моцна прамахнуся. Таму што за год адбываюцца вельмі вялікія змены.

### Воблачныя серверы

Уражанні ад банкаўскага сектара: *JPMorgan Chase* пачынае захоўваць частку дадзеных у публічным воблаку [спосаб захоўвання звестак у камп'ютарнай сетцы].

Мы наведалі *JPMorgan Chase і Citigroup*. Іх прэзідэнт сказаў, што мы пяройдзем на публічнае воблака толькі праз яго труп. Трупа пакуль не здарылася, дзякуй Богу, а ў воблака яны пачалі пераходзіць.

Нам трэба будаваць нейкі неймаверны дата-цэнтр велічынёй з рускую Крамянёвую даліну — «Сколкава». Гэта, вядома, вельмі цяжкая задача.

### Ні адной сцэны

У *Citigroup* нас уразіў яго новы будынак. Мы прыехалі, шчыра кажучы, будынак не вельмі, мы ўсе думалі: чаго яны паехалі сюды? Але калі мы выйшлі на паверх кіраўніцтва — усё кіраўніцтва сядзіць у адной вялікай прасторы: там няма ні адной сцяны.

Пры змене мадэлі кіравання яны страцілі прыкладна траціну менеджараў: больш за палову з іх звольнілі, каля паловы сышлі самі.

Ведаеце, мы ж паважаныя людзі, мы прывыклі сябе паважаць — мы, банкіры. Асабліва банкіры, якія сядзяць у Цэнтральным апараце — гэта ж людзі, а яшчэ сярод іх ёсць асаблівыя людзі... І вось гэта ўсё, вядома, выцекла ў тое, што яны траціну людзей страцілі па дарозе. Пра што яны ніколькі не шкадуюць і кажуць, што гэта абсалютна нармальны працэс.

**Калі поўны парадак, тады няма крэатыўнасці. Калі поўны хаос — нічога не працуе. Вось гэта — між тым і тым, каб быў неабходны парадак, але захоўваўся неабходны ўзровень свабоды — гэта і называецца культурай**

### Уражанні ад Netflix

Дадзеныя — гэта новая нафта. Вы ведаеце, калі дадзеныя — гэта новая нафта, то мы — нафтавая кампанія, якая гандлюе сырой нафтай. І мы [у Расіі] у лепшым выпадку пачынаем вучыцца выпрацоўваць бітум з гэтай нафты.

Ну якія дадзеныя ёсць у кампаніі, у якую вы заходзіце, як правіла, не пад сваім імем, Іваноў Іван Іванавіч... Пры знаёмстве з сайтам кампаніі вас абсалютна не цікавіць, што яна ў вас пытаецца, вам важна хутчэй дабрацца да кантэнту. У лепшым выпадку вы аплаціце гэта з нейкай адмысловай карткі, якая ў вас для інтэрнэту, яшчэ нейкім іншым спосабам, найбольш бяспечным — і ўсё. Дык вось, яны навучыліся па гэтых рэчах, па вашых паводзінах у іх асяроддзі, атрымліваць велізэзную колькасць дадзеных, і вельмі дакладна вызначаць ваш профіль, і «ўкладваць» вас у адпаведны кліенцкі сегмент. Па тым, калі вы ўваходзіце на сайт, колькі часу вы там праводзіце, як хутка вы робіце выбар, які выбар вы робіце, колькі хвілін вы знаходзіцеся на кожным з раздзелаў, колькі часу вы глядзіце той ці іншы фільм, калі вы заканчваеце яго глядзець, якія доўгія вашы перапынкі паміж праглядам фільмаў, якія моманты вы пракручвалі другі раз, якія моманты вы не жадаеце праглядаць і праганяеце далей... Вось з усяго гэтага, фактычна адсутнасці дадзеных, яны ўмеюць здабываць велізарную колькасць найважнейшай для сябе кліенцкай інфармацыі, каб кастамізаваць прадукты.

### Уражанні ад Uber

Трэвіс Каланік, прэзідэнт *Uber*, вельмі шмат гаворыць пра культуру. І вось, калі яму задалі пытанне, што такое культура для вас, ён — у простым швэдры, у джынсах, зусім такіх паношаных, чаравіках такіх кажа, злёгку нягалены з раніцы — кажа: «Для нас культура — гэта сродак утрымліваць кампанію паміж парадкам і хаосам. Калі поўны парадак, тады няма крэатыўнасці. Калі поўны хаос — нічога не працуе. Вось гэта — між тым і тым, каб быў неабходны парадак, але захоўваўся неабходны ўзровень свабоды — гэта і называецца культурай».

### Тэхналогіі віртуальнай рэальнасці

Пазнаёміліся мы і з тэхналогіямі віртуальнай рэальнасці.

Я надзеў гэты шлем віртуальнай рэальнасці, усе гэтыя прыборы на рукі, на ногі і зрабіў першы крок... Дошчачка, падвешаная на краі хмарачоса, і мне трэба было прайсці па ёй да канца — другі канец не замацаваны — і вярнуцца назад. Да таго часу частка нас з'ехала, але чалавек 25, напэўна, стаяла, і кожны, натуральна, нейк пажартаваў з гэтай нагоды: стаіць шум, смех і г.д. Але я іду па нармальнай падлозе, я выдатна ўяўляю сабе, што гэта нармальная падлога, я ў гэтым шлеме. Раблю першы крок, там народ весяліцца і жартуе. Я раблю другі крок, потым гэты прафесар кажа: «Паглядзі ўніз!» Я паглядзеў уніз, а там прорва. І ты хочаш не хочаш — усё, у мяне рэцэптары адключыліся, я сцяўся. Я зрабіў наступны крок і адчуў, што гэтая дошка пада мной гайдаецца. Я ўжо не ведаю, што там жартавалі, таму што я ўжо трымаўся за гэтую дошку чаравікамі, як толькі мог, і шкадаваў, што я не сапсаваў іх клеем перад гэтым... Але я прайшоў па гэтай дошцы туды і назад. І хачу сказаць, што кашуля ў мяне была мокрая, яе можна было выцiскаць. У мяне паўдня трэсліся мышцы, таму што я быў у такім напружанні, што гэта немагчыма кантраляваць. Калі з'ўляецца такое адчуванне рэальнасці — гэта, вядома, немагчыма кантраляваць.

Вы ведаеце, гэты віртуальны свет такі выдатны, што праблема — адтуль вярнуцца.

Гэта будзе глабальным прарывам з пункту гледжання тэхналогій навучання. Тэхналогіі віртуальнай рэальнасці — гэта новы выклік перад чалавецтвам.

### Пра Alcoa: гэтыя хлопцы будуць здымаць вяршкі

У *Alcoa* ёсць дзве рэчы, мы даведаліся пра 3D-металапрынтынг.

Вядома, фантастычныя рэчы яны робяць. Яны зараз лідары ў вырабе матэрыялаў для 3D-металапрынтынгу. Ёсць розныя спосабы металапрынтынгу: альбо з дроту усё гэта робіцца, альбо з парашку. Парашок павінен быць абсалютна кансістэнтным, гэта значыць, павінны быць абсалютна аднолькавыя пясчынкі гэтага парашку.

І самая галоўная хітрасць — як іх вырабіць. Таму што калі гэтыя часцінкі, парушынкі неаднолькавыя, то тады не ўзнікае абсалютна кансістэнтнай наплаўкі, узнікаюць там мікрапустоты, па якіх можа разламацца адпаведная дэталь. І яны сталі займацца вынаходніцтвам гэтай тэхналогіі. Прыдумалі яе, і цяпер робяць у вакуумных асяроддзях пры высокіх тэмпературах нейкім інертным газам, на атамарным узроўні раздзімаюць метал — алюміній, медзь, нікель, тытан і астатнія, — ператвараючы метал у атамарны пыл, абсалютна аднолькавы па сваім складзе. З гэтага пылу можна друкаваць усё што заўгодна. Гэта, вядома, узрушае, што яны працуюць, як прырода — гэта значыць, без адкідаў. Яны вырошчваюць з гэтага драбнюткага пылу любыя дэталі любой канфігурацыі, проста любыя.

Яны зрабілі тэхналогію, якая адразу ж з вытворчасці металу, алюмінію, з гліназёму, калі ідзе гэтая маса, плавіць пры высокай тэмпературы, адразу ж падаецца па вызначанай тэхналогіі на адмысловую лінію па пракаце і пры вельмі высокай хуткасці выкатваюць стужку — ад самай тонкай стужкі, якая выкарыстоўваецца ў хатняй гаспадарцы або ў вытворчасці бляшанак, да стужкі ў 1 см, з якой можна выраблядь усё што заўгодна. Увесь працэс займае 20 хвілін.

І яны ўжо пачалі з *Ford* вырабляць першую цалкам алюмініевую мадэль машыны: яна цалкам нармальна штампуецца, і ніякіх праблем няма.

Вось калі вы бачылі: амерыканскія грузавікі адрозніваюцца тым, што ў іх — ён увесь можа быць з ног да галавы брудны, але ў яго абсалютна бліскучыя колы, самаачышчальныя дыскі, да якіх ніякі бруд не прыстае. Вось гэта ўсё *Alcoa*.

### Impossible Foods: вытворчасць ежы іншым біялагічным спосабам

Прыйшоў да нас на сустрэчу амерыканскі прафесар, паказаў карову і кажа: што такое карова? Гэта самы недасканалы прыбор, які толькі можна прыдумаць, па вытворчасці малака і мяса. Першае — у яго звыш 90% адходаў, якія забруджваюць атмасферу. Другое — па дарозе, выраблячы малако і мяса, ён заражае іх усімі відамі хвароб, якія толькі можна атрымаць, большасць з якіх яшчэ і перадаецца чалавеку. І таму гэта каласальная праблема. І трэба прыбраць гэтага пасярэдніка, трэба прыбраць гэтую карову як самы недасканалы прыбор. Таму мы цяпер у стане цалкам паўтарыць біялагічны — не хімічны — працэс утварэння вось гэтага мяса і малака.

Яны вырабляюць малако і сыр, якія ўжо прадаюць у супермаркетах. Мяса паступае ў рэстараны...

Прычым яны даказалі амерыканскаму рэгулятару, што гэта не хімічны працэс, а біялагічны, што гэта натурпрадукт, выраблены з раслін сапраўды гэтак жа, як вырабляюцца ўсе астатнія біяпрадукты.

І, вядома, гэта не пакідае каменя на камені на тым, што дзесьці ёсць нейкая норка, у якую можна «занырнуць» са страху і не спаткацца з усімі гэтымі цудамі цывілізацыі. Падобна на тое, такіх норак, хлопцы, няма. Гэта дрэнная навіна для ўсіх нас, таму што ў нас з вамі не застаецца шанцаў ператварыцца ў даўншыфтараў... Усюды канкурэнцыя, хлопцы, усюды каласальная канкурэнцыя. Яна нарастае, яна набліжаецца і да нашага дому. І мы не пазбегнем яе, нам трэба гэта разумець.

# Не вуліца, а дарога смерці

**Гібель дзвюх дзяўчат на Магілёўскай вуліцы Мінска: выпадковасць ці вынік няправільнай расстаноўкі дарожных знакаў?**

ДТЗ адбылося ўвечары 12 мая на сталічнай вуліцы Магілёўскай. Кіроўца «Сітраэна С5», які ехаў па Магілёўскай, не даў рады кіраванню, аўтамабіль вылецеў на тратуар. Пад колы трапілі дзве дзяўчыны, якія ішлі па пешаходнай дарожцы.

19-гадовая Яня загінула на месцы. 20-гадовая Лена памерла ў бальніцы а палове на першую ночы пасля аперацыі. Дзяўчаты не дайшлі да царквы ўсяго 200 метраў.

— Гэтую трагедыю можна было прадбачыць. Вуліца вузкая, уся застаўлена аўто, машыны носяцца, як шалёныя. І гэты кіроўца таксама ляцеў на злом галавы, ехаў дакладна больш за 100 км/г, — распавёў kp.by відавочца трагедыі Андрэй.

Яню і Лену тут добра ведалі, яны ўвесь час хадзілі ў царкву, якая месціцца на гэтай жа вуліцы.


19-гадовая Яня.
«Сітраэн» пасля аварыі.

— У 19.50 кіроўца «Сітраэна» рухаўся з боку вуліцыВаладзько ў кірунку вуліцы Магілёўскай. Як распавядаюць відавочцы, ён на вялікай хуткасці на зялёнае святло праехаў скрыжаванне. Дарога там вузкая, і ёсць невялікае ўзвышша, на якім кіроўца не даў рады кіраванню — аўтамабіль вылецеў за межы праезнай часткі на ходнікі, дзе ішлі дзяўчаты, — распавядае падрабязнасці «КП» Вікторыя Царук, старшы інспектар па агітацыі і прапагандзе аддзела ДАІ Кастрычніцкага РУУС Мінска.

Праўда, іншыя відавочцы сцвярджаюць, што дзяўчаты ішлі не разам, а паасобку.

— Першай кіроўца збіў Яню, працягнуў яе метраў 60 і паехаў далей. Вось, бачыце, каля пункта аховы бачныя сляды крыві, — паказвае відавочца Андрэй. — Праз 20 метраў мы нават не адразу выявілі Лену, яна ляжала паміж бардзюрамі і машынамі. Але і тут аўто не спынілася! Яно павярнула налева, заехала на ўзгорак (яго вышыня досыць вялікая. — **Рэд.**), пранеслася ўздоўж некалькіх слупоў, дрэў і ўляцела ў таполю. За метр ад яе сядзелі двое хлопцаў, гэта дзіўна, што яны ўвогуле засталіся цэлыя! Кіроўца ляцеў 300 метраў! Збіваў людзей і не заўважаў. Як такое можа быць? Адразу пасля ДТЗ я падбег да яго, спытаў: «Ты п'яны ці што?» Той адказаў — не. Хутчэй за ўсіх прыехалі ратавальнікі, потым міліцыя і ў самым канцы хуткая, мы набіралі яе некалькі разоў, але ішлі доўгія гудкі.

— Калі прыехаў супрацоўнік ДАІ, мы адразу сказалі: «Ну што, дачакаліся?» Няўжо трэба два чалавечых жыцці, каб нас пачулі? — абураюцца жыхары вуліцы Магілёўскай. — Мы неаднаразова звярталіся ў гарадскую ДАІ, прасілі абмежаваць тут хуткасны рэжым да 40 км/г. У нас не вуліца, а дарога смерці! Тратуары толькі ў пачатку, а далей — праезная частка. Як хадзіць? Тут і царква, і дзіцячая нядзельная школа. Летам збілі аднаго пешахода, зімой другога, а да гэтага машына наогул уляцела ў хату. Справа ў тым, што тут некалькі СТА, кіроўцы выязджаюць пасля рамонту і пачынаюць выпрабоўваць свае машыны, а ў самым канцы вуліцы гараж на 90 машын.

У адказ на звароты жыхароў улетку 2015 года ДАІ даслала адказ, што «пры ўмове спрыяльнага бюджэтнага фінансавання» пытанне жыхароў Магілёўскай можа вырашыцца ў 2016 годзе.

— Адразу пасля аварыі прыехала жонка кіроўцы. Сказала, што ён інвалід 3 групы і ў яго здарыўся прыступ. Калі ён ведаў, што праблемы са здароўем, навошта сеў за руль? — здзіўляюцца відавочцы.

Вядома, што вінаватаму ў ДТЗ 50 гадоў, мінчанін, працуе кладаўшчыком на прыватным прадпрыемстве. Цяпер мужчына затрыманы, у дачыненні да яго Следчы камітэт пачаў крымінальную справу за парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць дзвюх асоб.

Кіроўцу пагражае да 7 гадоў зняволення.

Дзяўчат пахавалі на малой радзіме: Яню ў Паставах, Лену — у Маларыце.

**Кацярына Барысевіч, Kp.by**

# Тытунёвы шантажыст

Малады супрацоўнік гарвыканкама з Брэста падбухторваў падлеткаў купляць цыгарэты, а потым шантажаваў прадаўцоў.

Брэсцкім міжраённым аддзелам Следчага камітэта завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да трох мясцовых жыхароў, якія падманным шляхам заваладалі грашовымі сродкамі.

24-гадовы мужчына падбухторваў 16-гадовых хлопца з дзяўчынай набываць цыгарэты ў кіёсках. Затым ён патрабаваў ад прадаўцоў грошы, пагражаючы, што інакш прыцягне іх да адміністрацыйнай адказнасці за продаж цыгарэт непаўналетнім. Атрыманымі грашыма мужчына дзяліўся з падлеткамі. Пры гэтым вынаходлівы мужчына быў работнікам адміністрацыі Брэсцкага гарвыканкама, а раней працаваў сацыяльным педагогам.

Следства мае звесткі пра шэсць такіх фактаў у лістападзе-снежні 2015 года. Са слоў прадаўцоў, малады чалавек заўсёды заходзіў у павільён у прадстаўнічай вопратцы: белая кашуля з гальштукам і чорная куртка. Ён адразу выстаўляў прэтэнзіі і пагражаў, дэманструючы толькі што прададзены пачак цыгарэт. Многія з гандлёвых работнікаў спрабавалі растлумачыць, што падлетні пакупнік выглядаў як паўналетні (як тлумачыла дзяўчына, што набывала тытунь, яна перад «акцыяй» спецыяльна наносіла макіяж, каб выглядаць больш сталай). Калі прадаўцы спасылаліся на адсутнасць грошай, мужчына патрабаваў іх ад гаспадара аб'екта альбо цікавіўся датай выплаты заработнай платы. Пры гэтым мужчына сам называў канкрэтныя сумы ад 150 да 600 тысяч рублёў. Усяго ён заваладаў сумай у памеры 1,3 млн рублёў. Два прадаўцы ў выніку ўсё ж паведамілі пра здарэнне ў міліцыю.

Па выніках следства, мужчыну выстаўленыя абвінавачванні ў махлярстве, падбухторванні да дачы хабару, уцягванні непаўналетняга ва ўчыненне злачынства, прысваенні ўлады службовай асобы. У махлярстве і замаху на махлярства вінавацяць і непаўнагадовых паплечнікаў.

Да таго ж за факты продажу цыгарэт непаўнагадовым пакараюць і прадаўцоў.

Крымінальная справа накіраваная ў суд.

**УШ**

# «Глядзі, як трэба!»

П'яны берасцеец выпаў з аўто і цудам не загінуў пад коламі сваёй жа машыны.

Ноччу 13 мая двое сяброў каталіся па Брэсце. За стырном «Нісана» быў цвярозы кіроўца, яго падвыпіўшы таварыш — гаспадар машыны — сядзеў побач на пасажырскім месцы. Наведаўшы адну з начных установаў горада, гаспадар аўто вырашыў «паказаць клас». Ён сеў на месца кіроўцы і са словамі «глядзі, як трэба ...» паехаў, але не справіўся з кіраваннем — сутыкнуўся з аўтамабілем «Мазда». Пасля сутыкнення п'яны кіроўца выпаў з машыны на праезную частку, дзе задняе кола яго ж аўтамабіля пераехала яму ногі, паведамляе Брэсцкая ДАІ.

У крыві яго было больш як 2 праміле алкаголю. У дачыненні да берасцейца адразу склалі 3 адміністратыўныя пратаколы. Усяго за свой вадзіцельскі стаж мужчына мае 32 парушэнні ПДР.

**УШ**

# Ліцэістак асудзілі за «порнафотажарт»

У Баранавічах вынеслі прысуд тром дзяўчатам, якія з дапамогай фоташопу дадалі твар сяброўкі на парнаграфічнае фота і распаўсюдзілі здымак у інтэрнэце.

Суд прызнаў трох дзяўчат вінаватымі ў вырабе і распаўсюдзе парнаграфічнага малюнка групай па папярэдняй змове з выкарыстаннем інтэрнэту. Непасрэдная стваральніца малюнка атрымала 2,5 года пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на 2 гады. Яе дзвюм сяброўкам, якія ўдзельнічалі ў распаўсюдзе здымка, далі па 2 гады пазбаўлення волі ўмоўна. Іх мабільныя тэлефоны канфіскавалі ў прыбытак дзяржавы як сродкі здзяйснення злачынства.

Дзяўчаты вучацца на кухараў у прафесійным ліцэі ў вёсцы Новая Мыш. Ім па 16 і 17 гадоў. З дапамогай фота яны вырашылі «пажартаваць» са сваёй аднагрупніцы, якая



ім не падабалася. Але тая «жарт» не ацаніла і пайшла ў адміністрацыю ліцэя. Адміністрацыя звярнулася ў міліцыю. У выніку — суд і крымінальная адказнасць.

Праўда, пацярпелая пісаць заяву на аднагрупніц адмовілася. Тыя ў сваю чаргу выбачыліся перад пакрыўджанай дзяўчынай.

**УШ**

## Сцісла

**Беларус спрабаваў прарвацца ва Украіну на трактары**

Як паведамілі ў прэс-службе Брэсцкай пагранічнай групы, раніцай 12 мая ў памежнай паласе былі выяўлены трактар «МТЗ» без рэгістрацыйных нумароў, які ехаў у бок дзяржаўнай мяжы. Патрабаванні памежнікаў спыніцца трактарыст праігнараваў і працягнуў рух у аб'езд пункта спрошчанага пропуску «Вотчын — Гута» на тэрыторыі Маларыцкага раёна. Спыніўся толькі пасля папераджальных стрэлаў. Цяпер у дачыненні трактарыста, жыхара Маларыцкага раёна, праводзіцца праверка.

**Тры чалавекі загінулі пры пажары ў Полацкім раёне**

Паведамленне пра пажар у жылым доме ў вёсцы Ткачава паступіла ў ноч на 15 мая. Дом гарэў адкрытым полымем. Пры ліквідацыі пажару ў пакоі знойдзеныя целы двух мужчын, папярэдне, гаспадара дома і яго сына. Праз некаторы час пасля тушэння пажару ў гэтым жа пакоі ратавальнікі знайшлі цела яшчэ аднаго мужчыны, жыхара Наваполацка. Прычына пажару высвятляецца.

**У Оршы матацыкл урэзаўся ў таксі**

На скрыжаванні ўначы сутыкнуліся таксі «Нісан Альмера», якім кіраваў 60-гадовы мужчына, і матацыкла «Кавасакі», якім кіраваў 25-гадовы хлопец. Ад атрыманых траўмаў абодва, жыхары Оршы, загінулі на месцы. Паводле папярэдніх дадзеных, кіроўца іншамаркі выязджаў з другараднай дарогі на галоўную, па якой рухаўся матацыкліст. Апошні, у сваю чаргу, не меў правоў — пазбавілі за язду ў нецвярозым стане.

**Жанчына нарадзіла проста ў электрычцы Мінск — Баранавічы**

На 37-м тыдні цяжарнасці Алена адправілася з Мінска да мужа ў Баранавічы. Але не даехала. Недалёка ад пасёлка Гарадзея проста ў электрычцы ў жанчыны адышлі воды. Цягнік затрымалі і на вакзал выклікалі хуткую. Але прыезду медыкаў жанчына не дачакалася. Роды ў яе прымалі пасажыры электрычкі проста ў вагоне. У Алены нарадзілася дзяўчынка. Гэта ўжо трэцяе дзіця ў іх з мужам. Маму разам з дачкой адвезлі ў Клецкую радзільню.

**Лавіў ракаў і патануў**

Кампанія жыхароў Магілёва адправілася на вячэрнюю падводную рыбалку на возеры Броды. Аднак у 22:16 ратавальнікам паступіла паведамленне аб чалавеку, які тоне. Не змог выплысці на бераг жыхар Магілёва 1980 года нараджэння. Прычына гібелі высвятляецца.

**УШ**

# Аляксей Ластоўскі: Радыкальны нацыянальны праект беларусам ажыццявіць немагчыма, але тэндэнцыя нацыяналізацыі няўхільная

З сацыёлагам Аляксеем Ластоўскім гутарыць Андрэй Казакевіч.

**— У сучасных навуковых дыскусіях дастаткова часта сустракаецца словазлучэнне «гістарычны наратыў», які змест гэтага паняцця?**

— У межах традыцыйных падыходаў гісторыя разглядалася як навука, што мусіць даць аб'ектыўныя веды пра мінулае, «такім, якім яно было насамрэч», але пашырэнне паняцця «гістарычны наратыў» сігналізуе, што цяпер мы па-іншаму глядзім на прызначэнне гісторыі. Цяпер наш зварот да мінулага выглядае як пошук адказаў для сучаснасці, які найперш абумоўлены палітычнай і культурнай актуальнасцю. І тады гісторыя — гэта ўжо расповед, «байка» пра мінулае з пазіцый нейкіх значных сацыяльных і палітычных суб'ектаў (нацыянальнай дзяржавы ці контрэлітаў), які мае свой асаблівы сэнс, унутраную логіку і драматычны сюжэт. Гісторыя ператвараецца такім чынам у гістарычны наратыў.

**— Якое значэнне гістарычнага наратыву ў сучасным грамадстве? Яно большае ці меншае? Ці можна сказаць, што пік яго ўплыву прыпадае на «эпоху нацыяналізму», а цяпер назіраецца паступовы занянад?**

— На працягу тысячагоддзяў практычна ўсе палітычныя рэжымы апелявалі да спадчыны, да даўняга і слаўнага паходжання, і такім чынам выбудоўвалі сваю легітымнасць. Але ў XIX стагоддзі ў разуменні мінулага адбыліся значныя змены, якія можна акрэсліць як фарміраванне «нацыянальнага наратыву». У гэты час гісторыя губляе повязь з дынастычнай уладай і набывае асаблівае значэнне для нацыянальных інтарэсаў, яна робіцца падмуркам для стварэння мадэрных нацый. Паступова аднаўляецца ці наноў ствараецца памяць пра агульныя продкаў, іх подзвігі і здзяйсненні, пра традыцыі старадаўняй дзяржаўнасці і барацьбы за вольнасць — і без гэтага немагчыма ўявіць сабе стварэнне нацыянальных дзяржаў у Еўропе. І гэты падмурак немагчыма вынесці з сучаснасці.

## Ахвярамі цяпер быць выгадней, асабліва для малых дзяржаў Еўропы, «пакрыўджаных» таталітарнымі імперыямі

**— Калі ад гісторыі немагчыма адмовіцца, яна абавязковы элемент любога грамадства, тады паўстае пытанне: ці змяняецца нацыянальны гістарычны наратыў?**

— Для дзяржаў, якія выбудавалі свае палітычныя інстытуты ў XIX стагоддзі, цяпер настала спакойная стадыя — нацыянальны наратыў замацаваны, ён


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аляксей Ластоўскі**

сацыёлаг, кандыдат навук, даследчык гістарычнай памяці і нацыянальнай ідэнтычнасці. Скончыў гістарычны факультэт БДПУ (2000), аспірантуру Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі (2005). Намеснік рэдактара часопіса Belarusian Political Science Review.

уплецены ў тканіну культуры і штодзённасці. Можна спакойна дапускаць акадэмічную крытыку, развіваць скептычнае стаўленне да «нацыянальных міфаў» на ўзроўні навуковых асяродкаў.

Але калі размова ідзе пра дзяржавы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, то па розных прычынах тут не існавала неперарванай дзяржаўнай традыцыі ў XX стагоддзі. Нацыянальны наратыў быў выключаны з логікі самастойнага развіцця з-за знешніх інтэрвенцый, што спараджае ў «малых народаў» рэгіёна пачуцце пагрозы свайму існаванню.

**— Ці змянілася роля гістарычнага наратыву ў грамадстве за апошнія 100—150 гадоў? Яго можна крытыкаваць, ставіцца скептычна, ці значыць гэта, што роля становіцца меншай?**

— Мне падаецца, што ніякага зніжэння значнасці гісторыі не адбываецца. Вандруючы па Заходняй Еўропе, я бачу, што гісторыя і яе сімвалічнае вымярэнне вельмі важныя для гэтых грамадстваў, у папулярнай культуры, у сістэме адукацыі пазіцыі нацыянальнага наратыву шмат у чым застаюцца непахіснымі. У акадэмічнай сферы, сапраўды, пануюць больш крытычныя погляды, але гэта мала закранае ўзровень масавай свядомасці.

А вось ва Усходняй Еўропе няма такой гармоніі ў падзеленасці сфер — спрэчкі і канфлікты вядуцца на ўсіх узроўнях.

**— Ці значыць гэта, што можна вылучаць асобную «ўсходнееўрапейскую» і «заходнееўрапейскую» культуру і палітыку памяці?**

— Розніца паміж Заходняй і Усходняй Еўропай, безумоўна, ёсць. Адрозніваецца стаўленне да камуністычнага рэжыму, да Халакосту, але мне падаецца, што варта разглядаць Еўропу як адзіную прастору, і тады больш прыдатнай робіцца іншая тыпалогія: альбо лічым сябе героямі, альбо ахвярамі. У XIX стагоддзі важна было паказаць сябе героямі, адлюстраваць дасягненні продкаў, гэта мабілізоўвала на палітычныя дзеянні. Пасля Другой сусветнай вайны мяняецца модус успрыняцця мінулага, прывілеяванае месца займаюць ахвяры, а не героі. Класічным прыкладам можа быць Халакост. У выніку ахвярамі цяпер быць выгадней, асабліва для малых дзяржаў Еўропы, «пакрыўджаных» таталітарнымі імперыямі.

**— Дык якая мадэль наратыву ў сучаснай Заходняй Еўропе: героя ці ахвяры? Як будуюць наратывы, напрыклад, сучасныя немцы?**

— Мы рэдка можам знайсці іх у чыстым выглядзе. І ў Заходняй Еўропе пазіцыі гераізму застаюцца дастаткова моцнымі ў папулярнай культуры і школьнай адукацыі. Напрыклад, юбілейнае ўшанаванне памяці пра Першую сусветную вайну ўтрымлівае шмат адпаведнага пафасу. Але найперш Германія стала рухавіком для перагляду гераічнага разумення сваёй гісторыі. Натуральна, цяжка адчуваць сябе нацыяй злачынцаў, але можна спачуваць ахвярам, тым, хто пацярпеў ад злачынстваў нацыстаў, адчуваць іх боль: і на гэтым канцэнтраваць свой расповяд пра мінулае.

**— А калі ўзяць асобныя краіны Усходняй Еўропы? Ці можна сказаць, што існуюць прынцыповыя адрозненні ў гістарычных наратывах, напрыклад, паміж украінскім і беларускім ці польскім і расійскім?**

— Вылучаецца ў першую чаргу Расія, дзе значна меншае адчуванне ахвярнасці, для расійскай культуры не ўласціва спачуванне — ні да сябе, ні да іншых. Асабліва гэта бачна на прыкладзе трагедыі народаў, уключаных у сферу інтарэсаў Расіі, для расійскай оптыкі іх пакуты з'яўляюцца неістотнымі.

Калі казаць пра Беларусь і Украіну, то ў абодвух выпадках гераічны і ахвярны наратыў спалучаюцца па досыць блізкай мадэлі, толькі выкарыстоўваюцца розныя эпізоды.

Для беларусаў асноўны гераічны сюжэт звязаны з Вялікай Айчыннай вайной, адтуль жа падтрымліваецца наратыў ахвярнасці. Паноўная версія мінулага ва Украіне таксама спалучае матыў ахвярнасці (Галадамор) і гераізму (узброены антыкамуністычны супраціў). Але для нашых суседзяў ад-

## Нацыянальная версія гісторыі яўна дамінуе над «заходнярускімі» канструкцыямі — і па колькасці аўтараў, і па колькасці прыхільнікаў

чувальная праблема еднасці гістарычнага наратыву і адзінства ўяўленняў пра нацыянальнае мінулае. Былі спробы сінтэзу пры Кучму, але яны не далі плёну, далей нешта такое спрабаваў зрабіць Януковіч, але з тым жа вынікам.

Калі казаць пра сучасны стан, то ва Украіне рэй вядуць прыхільнікі антыкамуністычнай версіі гісторыі, з сімпатыямі да нацыянальна-вызваленчага руху і да АУН-УПА. Гэтыя людзі вызначаюць палітыку Інстытута нацыянальнай памяці, уплываюць на заканадаўства, адукацыйныя праграмы, але да сапраўднага адзінства на масавым узроўні яшчэ далёка.

**— Ці можна характарызаваць палітыку памяці ў нашым рэгіёне як загануюю ці небяспечную?**

— Варта падкрэсліць, што ў любой краіне гісторыю выкарыстоўваюць для палітычных мэтаў, гэта само сабой не з'яўляецца паталогіяй. Ці ўплывае інтэрпрэтацыя гісторыі на рост радыкалізму і пашырэнне канфліктаў? Мне падаецца, што мы перабольшваем ролю гісторыі ў гэтым плане. Напрыклад, рост радыкальнага нацыяналізму ў Польшчы і Прыбалтыцы — гэта не столькі вынік мэтаскіраванай гістарычнай палітыкі, колькі зменаў у міжнароднай сітуацыі, адчування пагрозы з боку Расіі. Менавіта гэта стымулюе рост такіх пачуццяў.

**— А тэндэнцыі ў сферы палітыкі памяці, як да іх ставіцца і як ацэньваць?**

— Трэба разумець, што мы не маем адной тэндэнцыі. Прынамсі два працэсы накладаюцца адзін на адзін. Па-першае, гэта «еўрапеізацыя», калі на Усход пашыраюцца каштоўнасці і падыходы, характэрныя для Заходняй Еўропы. Уключэнне ўсходнееўрапейскіх краін у агульнаеўрапейскую прастору адбываецца, не толькі на ўзроўні інстытутаў, але і каштоўнасцяў. Гэта назіраецца, напрыклад, у стаўленні да Халакосту. Многія нормы заходняй палітычнай карэктнасці ўжо прыжыліся ва Усходняй Еўропе. Іншая рэч, што такія тэндэнцыі сутыкаюцца з перажываннем уласных траўмаў і крыўдаў, імкненнем аднавіць сваю годнасць, часам перабольшанымі сродкамі. Такія праявы прыкметныя, пра іх варта ведаць, але нельга гіпертрафіраваць, апазнаваць як дамінанту. Больш імаверна, што еўрапеізацыя гістарычнай палітыкі будзе ўзмацняцца, хоць важным фактарам застаецца міжнародная сітуацыя.

**— А што з краінамі, якія не хочуць ці не могуць інтэграваца ў Еўрапейскі Саюз? Расія і Беларусь?**

— Выпадкі Расіі і Беларусі вельмі розныя, бо перад гэтымі дзяржавамі стаяць неаднолькавыя задачы.

У Беларусі сама дзяржаўнасць і нацыянальная ідэнтычнасць часта ставяцца пад пытанне, гэта, хутчэй, стымулюе стратэгіі выжывання, маскавання.

Калі палітыку вызначае стаўка на саюз з Расіяй, то для гісторыі ставіцца задача адначасова пазначыць самастойнасць і задаволіць палітычныя амбіцыі Расіі. Праўда, такая стратэгія разлічана на кароткі тэрмін і не дазваляе стварыць трывалы фундамент для ідэнтычнасці і гістарычнай памяці, якія ў Беларусі маюць нетрывалыя, мяккія формы.

Для Расіі сітуацыя зусім іншая. У 1990-я гады пашырaліся пэўныя ліберальныя стандарты, праўда, не заўжды паспяхова. Потым адбылася рэакцыя, звязаная з прыходам да ўлады Уладзіміра Пуціна. Для Расіі асноўнай мэтай у апошніе дзесяцігоддзе стала пабудова «моцнай дзяржавы», аднаўленне ўласнага гонару і велічы — і гэта прывяло да перафармулявання гісторыі. У такой сітуацыі ліберальныя падыходы адкідаюцца як дэструктыўныя, як спробы разбурыць слаўнае мінулае, неабходнае для «вялікай дзяржавы». Ліберальныя асяродкі засталіся ў Расіі, але яны ўсё больш і больш маргіналізуюцца.

**— А якую ролю ў гэтых працэсах займае ідэя і практыка «рускага свету»?**

— Гэта ідэя мае доўгую гісторыю і была створана, перш за ўсё, у асяродку Маскоўскага патрыярхату Праваслаўнай царквы для пазначэння ўласнай сферы ўплываў. Пасля разгортвання падзеяў ва Украіне ідэя «рускага свету» стала карэляваць з расійскай замежнай палітыкай. Расія стала больш актыўна прэтэндаваць на статус вялікай дзяржавы, вяртаць «страчаныя землі», а ідэя «рускага свету» служыць для апраўдання такога пранікнення. Стан рускай меншасці і рускай мовы — гэта моцны рычаг ціску.

**— А якую ролю ў разгортванні «рускага свету» займае гісторыя? Ці ўвогуле гісторыя тут істотная?**

— Гісторыя тут з'яўляецца важным складнікам. Мы бачым маніпуляванне памяццю пра Вялікую Айчынную вайну, гэта тэма свядома выкарыстоўваецца расійскімі ўладамі, каб рабіць інтэрвенцыі ў культурныя і палітычныя працэсы суседніх краін.

Можна прыгадаць, якую ролю выконвала георгіеўская стужка. Спачатку гэта быў элемент «мікрапалітыкі», каб уключыць у практыкі памяці звычайных людзей, але ў апошнія пару год георгіеўская стужка стала відавочным сімвалам пашырэння расійскага бачання гісторыі, моцна звязаным з ідэяй і практыкай «рускага свету».

Як вынік — нервовая рэакцыя на гэтыя стужкі ў суседніх з Расіяй краінах. Нават у Беларусі, якая з'яўляецца бліжэйшым саюзнікам Расіі па шанаванні Перамогі, сігналы не адназначныя. На парадзе Перамогі 9 мая 2015 у Маскве беларускія ваенныя часткі былі фактычна адзінымі, якія не мелі на сабе георгіеўскіх стужак. Акрамя гэтага, даносяцца рэкамендацыі дзяржаўных органаў не выкарыстоўваць георгіеўскія стужкі пры шанаванні Дня Перамогі. Такім чынам, нават у Беларусі стаўленне да гэтага сімвала цесна звязваецца з агрэсіўным вобразам «рускага свету», які не выклікае асаблівага энтузіязму ў беларускіх уладаў.

**— А што варта рабіць з ідэяй і практыкай «рускага свету», на вашу думку?**

— Беларусь — гэта краіна Памежжа, суіснавання розных традыцый, моў і культур. І гэта зусім не адпавядае ідэалу адзінства і выключнасці, якія прапагандуюцца праз ідэю «рускага свету».

Культурныя і палітычныя імпульсы з Расіі будуць сыходзіць непазбежна, з гэтым беларусам у любым выпадку трэба разбірацца. У такой сітуацыі немагчыма ажыццяўляць радыкальны нацыяналістычны праект, які б прадугледжваў, напрыклад,

## У Маскве ўзнікла адчуванне, што Лукашэнка не зусім адпавядае расійскім інтарэсам

поўнае выключэнне рускай мовы з публічнай сферы. Таму патрэбна доўгатэрміновая стратэгія, якая б мінімізавала дэструктыўныя ўплывы і гарманізавала беларускую прастору. Напрыклад, руская мова і культура могуць стаць адным са шматлікіх элементаў беларускай ідэнтычнасці — складанай, багатай і насычанай.

**— А якім чынам змяняецца ў Беларусі разуменне мінулага?**

— У сваіх даследаваннях вобразу мінулага ў грамадскай свядомасці я адзначаў, што назіраецца тэндэнцыя нацыяналізацыі гістарычнай памяці. Але нацыяналізацыя марудная і паступовая. Ужо цяпер прыходзіць у актыўнае прафесійнае і палітычнае жыццё пакаленне, якое вучылася па падручніках Рэспублікі Беларусь, а не БССР. Нацыянальная версія гісторыі яўна дамінуе над «заходнярускімі» канструкцыямі — і па колькасці аўтараў, і па колькасці прыхільнікаў.

У Беларусі, натуральна, значны ўплыў на культурна-палітычныя працэсы мае прэзідэнт краіны, яго прарасійскія і прасавецкія схільнасці без сумневу паўплывалі на гістарычную палітыку. Але пры гэтым некаторыя важныя працэсы ідуць знізу і іх цяжка адмяніць сімпатыямі кіраўніка дзяржавы.

Павольная беларусізацыя праходзіць перш за ўсё там, дзе гэта не выклікае канфліктаў. Напрыклад, актуалізацыя гісторыі ВКЛ не вядзе да наўпростай канфрантацыі з гістарычным наратывам расійскай дзяржавы. Некаторыя «патрыёты» падымалі шум з нагоды адкрыцця помніка Альгерду, прадстаўлялі гэта як антырасійскую акцыю, але можна ўзгадаць, што ў Ноўгарадзе Вялікім у 1862 годзе быў пастаўлены помнік «Тысячагоддзе Расіі», дзе сярод постацяў, што будавалі расійскую дзяржаву, прысутнічае і Альгерд (а таксама Гедымін і Вітаўт).

**— Як можна спрагназаваць развіццё сітуацыі? Гэта тэндэнцыя нацыяналізацыі будзе працягвацца?**

— Калі будзе існаваць незалежная дзяржава, то такая тэндэнцыя непазбежна захавае[ц]ца. Больш складана спрагназаваць паводзіны Расіі ў будучыні. Ці будзе яна імкнуцца да больш агрэсіўнага пранікнення ў беларускую культурную і палітычную прастору? Доўгі час Беларусь была пакінутая сама сабе, бо лічылася, што тут і так прарасійскае кіраўніцтва, не было патрэбы інвеставаць дадатковыя рэсурсы і праводзіць спецыяльную культурную палітыку.

Але за апошнія пяць год сітуацыя істотна памянялася, бо ў Маскве ўзнікла адчуванне, што Лукашэнка не зусім адпавядае расійскім інтарэсам. Пачалася праца з прарасійскімі групамі. Цяпер гэтыя сілы не вельмі заўважныя, але, калі паўстане пытанне пра павышэнне расійскай прысутнасці, яны могуць выйсці на першы план.

**— А ці няма трэцяга сцэнару, звязанага з глабалізацыяй? З**

## Масавая свядомасць насельніцтва Беларусі з'яўляецца вельмі ўразлівай для расійскіх СМІ, гэта істотная пагроза

**заняпадам нацыі як палітычнай супольнасці, разбурэннем ці самаразбурэннем нацыянальных наратываў у выніку паглыблення міжнароднага супрацоўніцтва?**

— Відавочна, што нідзе ў Еўропе не зніклі нацыянальныя дзяржавы. Пра гэта вялося шмат размоваў — пра культурную глабалізацыю, стварэнне наднацыянальных структур, заняпад нацый, — але гэтага не адбылося. Калі гэтыя працэсы не зламалі нацыянальную дзяржаву ў цэнтры глабалізацыі, то яшчэ менш імаверна, што гэта адбудзецца ў нашым рэгіёне.

**— Што б вы параілі рабіць у сферы палітыкі памяці і гістарычнай палітыкі?**

— Калі казаць пра беларускую ўладу, то для яе асноўнай задачай мусіць быць захаванне незалежнасці беларускай дзяржавы. Для гэтага на ўзроўні гістарычнай палітыкі неабходныя дзве рэчы.

Па-першае, варта паклапаціцца пра інфармацыйную бяспеку, бо апошнія падзеі паказалі, што масавая свядомасць насельніцтва Беларусі з'яўляецца вельмі ўразлівай для расійскіх СМІ, гэта істотная пагроза. Таму варта прадумаць комплекс мер, каб стварыць бар'еры для расійскага маніпулявання беларускай грамадскай думкай. Па-другое, патрэбна доўгатэрміновае планаванне ў гуманітарнай сферы. Падтрымання заробкаў і пенсій не дастаткова, каб захоўваць лаяльнасць грамадзян, трэба працаваць на ўзроўні культуры, мовы, гісторыі. Усё гэта з'яўляецца важнымі мабілізацыйнымі фактарамі і патрабуе не сітуатыўнага, а стратэгічнага падыходу.

Патрэбна доўгатэрміновае планаванне, але прыкметаў такога падыходу пакуль не бачна. Той жа праект стварэння беларускай дзяржаўнай ідэалогіі ператварыўся ў руцінны бюракратызм.

Што датычна грамадзянскай супольнасці, то мусім рабіць, што і рабілі: пісаць кнігі, рабіць даследаванні, ствараць альтэрнатыўныя адукацыйныя нормы. Неабходна стымуляваць творчасць, павышаць стандарты і пашыраць аўдыторыю сваёй культурнай працы.

**Гутарыў Андрэй Казакевіч**



**Андрэй Казакевіч**
доктар палітычных навук, дырэктар Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера».

## Навіны Германіі

### Германія на 95% забяспечыла сябе энергіяй з аднаўляльных крыніц

У Германіі быў зафіксаваны новы рэкорд альтэрнатыўнай энергетыкі. Краіна на 95% закрыла патрэбу ў электрычнасці з аднаўляльных крыніц: сонца, ветру, біямасы і вады, піша *Science Alert*. Як кажуць эксперты, дасягненню адзнакі паспрыяла надвор'е: ярка свяціла сонца і дзьмуў моцны вецер. Агульная магутнасць установак альтэрнатыўнай энергетыкі дасягнула 57,8 гігавата. На сонечную энергію прыйшлося 45,2%, на ветравую — 36%, на энергію біямасы — 8,9%, на гідраэнергію — 4,8%. Германія плануе скараціць выкіды парніковых газаў на 80—95%, да 2022 года паступова адмовіцца ад атамнай энергетыкі і ў 2050 годзе на 60% закрыць свае патрэбы ў электрычнасці крыніцамі аднаўляльнай энергіі.

### BMW выпусціць флагманскі электрамабіль з функцыяй аўтапілота

Новы флагман BMW будзе ўяўляць сабой седан, абсталяваны электрычным рухавіком. Мадэль атрымае назву BMW *iNext* і з'явіцца ў 2021 годзе. Пра гэта распавёў кіраўнік кампаніі падчас штогадовай справаздачы перад акцыянерамі. Новы *iNext* дапаможа BMW у барацьбе з канкурэнтам у асобе *Tesla*. Акрамя амерыканскай электрамабільнай кампаніі, націск на аўтагіганта працягваюць яго традыцыйныя супернікі. Так, у першым квартале бягучага года BMW саступіў сусветнае першынство *Mercedes*. Аўтавытворца рэалізаваў 478 000 аўтамабіляў, а яго супернік — на 5000 больш.

### Разню на вакзале Германіі зладзіў вар'ят-наркаман

Крывавае здарэнне адбылося каля пяці гадзін раніцы на чыгуначным вакзале баварскага горада Графінг. У электрычку на Мюнхен забег мужчына з нажом і напаў на аднаго з пасажыраў. Затым выбег і атакаваў яшчэ траіх чалавек на вакзале. Відавочцы сцвярджаюць, што падчас нападу мужчына выкрыкваў «Алах Акбар» і «Вы — няправільныя». Яго затрымалі. Мужчыну клічуць Паўль, яму 27 гадоў, грамадзянін Германіі, родам з зямлі Гесэн. У злачынца былі праблемы з наркотыкамі і псіхікай. Не выключана, што і напад ён здзейсніў «пад кайфам».

### На iPhone з'явілася дадатак для абароны ад сачэння

Нямецкія спецыялісты ў сферы кібербяспекі заявілі, што за 2015 год больш за 250 тысяч *iPhone* падвергліся нападам вірусаў. Спецыялісты распрацавалі дадатак *System and Security Info*, які апавяшчае карыстальнікаў аб тым, што іх смартфоны ўзламаныя. Пасля ўсталёўкі дадатак скануе прыладу і выяўляе ўмяшанні ў прашыўку. Спецыялісты адзначаюць, што, даведаўшыся пра ўзлом свайго смартфона, не варта хвалявацца. Для вырашэння гэтай праблемы дастаткова вярнуцца да заводскіх наладак, і тады хакеры страцяць доступ да вашай прылады.

### Нямецкая эканоміка расце за кошт уцекачоў

Міграцыйны крызіс назвалі адной з асноўных прычын росту ВУП Германіі ў пачатку года журналісты выдання *Welt*. З-за ўцекачоў расце аб'ём дзяржаўных выплат, інвестыцый і прыватнага спажывання. Для сотняў тысяч уцекачоў улады ФРГ мусяць забяспечыць размяшчэнне і спрыяць іх інтэграцыі. Таму растуць дзяржаўныя выплаты. За кошт росту прыватнага спажывання павялічваюць выдаткі прыватныя хатнія гаспадаркі. Разам з выдаткамі растуць і аб'ёмы інвестыцый унутры дзяржавы на абсталяванне і будаўніцтва. На гэтым фоне, паводле дадзеных *Destasis*, ВУП у краіне вырас на 0,7% адносна чацвёртага квартала 2015 года. Германія прыняла больш за мільён перасяленцаў з 1,8 мільёна бежанцаў, якія прыбылі ў ЕС у 2015.

## Фотафакт



# Праспект нацыянальнага сцяга

**«Малады фронт» на Кастрычніцкай плошчы правёў акцыю, прымеркаваную да гадавіны рэферэндуму 1995 г., у выніку якога была зменена дзяржаўная сімволіка і ліквідаваны статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай. Акцыя сабрала некалькі дзясяткаў чалавек. Міліцыя складала пратаколы на ўдзельнікаў акцыі, але не затрымлівала.**

# Дзень, калі трэба баяцца тэлефонных званкоў

Апавяданне. Піша **Віктар Дашук**.

Апарат *Trilogie*, на якім я праходзіў прамянёвую тэрапію, часам ламаўся, і, пакуль яго рамантавалі, пацыентаў «перакідалі» на іншы апарат, часова, пакуль заходняя фірма даставіць у Мінск неабходныя для рамонту дэталі... Зламаны апарат рабіў усім шмат нязручнасцяў: дактарам даводзілася пералічваць дозу апраменьвання, а пацыенты падоўгу знемагалі ў чэргах... Здаралася, што і другі апарат даваў збоі ад перанагрузкі, і гэта была ўжо надзвычайная сітуацыя: ці то чакаць некалькі гадзін, ці то адмаўляцца ад сеансу, што па медыцынскіх паказаннях не вітаецца — прамянёвая нагрузка павінна быць штодзённай, інакш усё лячэнне — дарэмнае...

У адзін з такіх «аварыйных» дзён я заняў чаргу за адным не старым яшчэ чалавекам і пайшоў у самы далёкі кут бальнічнага калідора... Мяне вельмі раздражнялі стукачы і агенты ў чарзе, таму я стараўся адасабляцца... На гэты раз мужчына, які быў перада мной, раптам падняўся і пайшоў следам... Я вырашыў: калі сядзе побач, абкладу яго матам-пераматам і скажу, каб сыходзіў прэч. Але ён не сеў, проста спыніўся. Ён быў такі худы, што трэба было разы тры прайсці міма, каб яго заўважыць... Ён сказаў:

— Пане, прабачце, я баюся падаца навязлівым... Я заўважыў Вас даўно... Вы заўсёды маўчыце, не размаўляеце ні з кім у чарзе ... Што выдае ў Вас чалавека самотнага і безабароннага...

Пасля такога ўступу ці павернецца язык аблаяць нязпрошанага суседа — я кіўнуў: «Сядайце».

Ён асцярожна — так прысаджваюцца вельмі вінаватыя людзі — апусціў сваё худое, як зімовае дрэва, цела на краёчак лавы... Доўга сядзеў моўчкі і раптам, не паварочваючы галавы, сказаў фразу, ад якой я, ужо ў паўдрымотным стане, імгненна прачнуўся:

— Вясной я хаджу ў лес. І кукую там. І ведаеце — зязюля часта адказвае мне... Сёння ў мяне дзень, калі трэба баяцца тэлефонных званкоў...

Гэта было запрашэнне да стасункаў. Я інтуітыўна адчуў, калі адмоўлюся — вазьму грэх на душу. Спытаў наўздагад:

— Чакаеце вынікаў аналізу?

— Адгадалі, — усміхнуўся сусед і пацікавіўся: — А Вы, прабачце, у якой сферы працуеце?



**Віктар Дашук**

Нар. 1938. Кінарэжысёр. Народны артыст БССР. Жыве ў Астрашыцкім гарадку. Ён папрасіў нас змясціць адрас у інтэрнэце, дзе можна прачытаць іншыя яго творы: fayloobmennik.net/5926200.

— У мастацтве ...

— О-о! Я вам зайздрошчу. Мастацтва дадзена, каб не памерці ад ісціны. Вось я ўчора тэлефаную свайму калегу і кажу: «Патрэбна дапамога». А ён мне: «Грошай у мяне няма, але магу дастаць цыяністы калій»... Жартаўнік... Ды мне прosta пагаварыць... Мы жывём у краіне нефарбаваных ідыётаў, усё перавернута з ног на галаву... Вы як лічыце?.. Асабліва ў адносінах між мужчынам і жанчынай.

— Я лічу, што цыяністы калій — гэта добра, — сказаў я і зразумеў, што паставіў суседа ў тупік, і той доўга маўчаў. Але пасля маўчання ён выдаў такое, што ў мяне варухнулася нейкае няпэўнае падазрэнне: нездарма, відаць, гэты мужык падсеў да мяне. Ён сказаў, узлыхнуўшы перад гэтым:

— Penis — гэта так, для прыгажосці, а лашчыць жанчыну трэба словамі...

— Я згодны з вамі.

Мой сусед узрадаваўся гэтым маім словам, напэўна, вырашыў, што мы — роднасныя душы... З гэтага моманту ён ужо ні пра што ў мяне не пытаўся, гаварыў і гаварыў, а я слухаў і слухаў, бо ўсё, што яго вярэдзіла, ён захацеў выплюхнуць адразу, усё — да кропелькі, здагадваюцца, імаверна, што такога ўдзячнага слухача, як я, наўрад ці ўдасца адшукаць дзе-небудзь... І ў яго ў распараджэнні была цэлая гадзіна, пакуль выйдзе медсястра і выкрыкне прозвішча... Пакліча на эшафот пад праменні, якія ці то лечаць, ці то забіваюць... Мне здавалася, што самі дактары не ведаюць, што менавіта адбываецца на гэтым ложку, але верацъ у лепшае... у адрозненне ад майго суседа, які ўжо не верыў нікому і нічому:

— Я неяк прывёз на сваю дачу адну дзяўчыну, пытаюся ў яе: дзе ты хочаш, каб мы ўз'ядналіся?.. На дыване каля каміна? На лесвіцы? На балконе? На ложку ці канапе?.. А можа, у ваннай?.. Ці ў лес пойдзем, як дзікія звяры?.. «Мне ўсё роўна, выберы тое месца, дзе ты мне заплаціш больш». Тады на ганку, — кажу я.— Можаш нават боты не здымаць... Праз пяць хвілін павёз яе назад на аўтобусны прыпынак, яна пытаецца: «А чаго ты пакрыўдзіўся?» Людзі не разумеюць адно аднаго... Краіна нефарбаваных ідыётаў... Прастытуцыя — не там, дзе ногі рассоўваюць за грошы... Прастытуцыя — там, дзе з цябе робяць ідыёта. Чаму ў нашых начальнікаў твары, быццам заседжаныя мухамі?.. Хлусяць таму што... Чаму ў нас так шмат садзяць у турму чыноўнікаў? Хлусні так шмат, што людзі ўжо заблытваюцца, дзе праўда, а дзе хлусня несусветная... Паведамляюць: падчас арышту ў момант атрымання хабару бізнэсмен такі і такі з'еў адну тысячу даляраў. Я вырашыў паспрабаваць... Тысячу есці не стаў, шкада, а ўзяў адзін даляр... Гэта ж яны аднолькавыя, што сотня, што адзін... Доўга жаваў, з цяжкасцю праглынуў, але зразумеў: за час арышту з'есці тысячу не атрымаецца... Хлусня гэта... Верыць нікому нельга... у мяне склалася ўражанне, што працоўны дзень у міністэрствах пачынаецца нарадамі, на якіх вырашаюць: каго саджаем сёння, а каго — заўтра... Зноў жа — канфіскацыя маёмасці. Гэта пакаранне за злачынства, ці ў дзяржавы казна пустая, і трэба садраць з кожнага, як з дрэннай авечкі хоць воўны клок? Я часта думаю: ад беднасці людзі робяцца горшымі ці лепшымі?.. У нас прынята бедныя калгасы, прадпрыемствы перадаваць багатым гаспадаркам, то бок багатыя павінны падзяліцца з беднымі... Краіна нефарбаваных ідыётаў... Трэба было ісці далей — і бедныя сем'і прымацоўваць да багатых сем'яў, бамжоў — да алігархаў... Адабраць частку палюбоўнікаў ад тупой, але даўганогай цудоўнай бландзінкі, і перадаць іх той непрыгожай бабе, якая ўсё жыццё вымушана цалаваць не мужыка ў ложку, а толькі Бога на іконе ў царкве... Каб усім — пароўну, і тады добрых людзей стане больш, ад галечы людзі шалеюць... Я кажу свайму доктару: гэта не я з'ехаў са шпулек, гэта свет вакол мяне з'ехаў з глузду... Чалавек не вытрымлівае нагрузкі на сваю псіхіку... Асобаў ужо няма. Грэблівыя, слабыя і хітрыя ўжо даўно з'ехалі. Засталіся толькі хворыя, асуджаныя і бандыты. А яшчэ такія, як я — звар'яцелыя ад жаданняў што-небудзь змяніць у Краіне нефарбаваных ідыётаў! Ёсць такая афрыканская краіна Гамбія. Яна занесена ў Кнігу рэкордаў Гінеса — там на ўсю краіну маецца ўсяго адзін вулічны святлафор. Нешта падобнае, што нагадвае Гамбію, здарылася і ў нас: рашэнні прымае толькі адзін чалавек, хоць мы маем і парламент, і Савет міністраў, і Канстытуцыйны суд, і Вярхоўны суд... Мы — Гамбія-2... Абсурд... Быць можа, таму ў чыноўнікаў улюбёны выраз: «Дзякуй Богу і дзякуй нашаму Вярхоўнаму жрацу»... Можаце ўявіць сабе такі пасаж: «Дзякуй Богу і дзякуй Бараку Абаму...» Але ёсць рэчы, дзе мы аказаліся прадбачлівымі — панабудавалі кучу стадыёнаў, крытых спартовых збудаванняў і лядовых палацаў. Не сёння-заўтра наляцяць расійскія акупацыйныя войскі — будзе дзе размясціць людзей пры нечаканым нашэсці «зялёных чалавечкаў»... У Пінача ў Чылі ў момант перавароту быў усяго адзін стадыён. Памятаеце, як ён пакутаваў... І... мучыў іншых... Як вы лічыце, хто з людзей па абодва бакі турэмных кратаў больш вольны: ахоўнік або зняволены? .. Зняволены! У нас больш за ўсё тых, хто, як жартуюць, ідзе ў суд са сваёй вяроўкай і зэдлічкам, каб пасля прысуду ў ката пад шыбеніцай не было лішніх клопатаў... Але шмат і тых адзіночак, хто не просіць літасці ва ўлады — яны настолькі шануюць сваю свабоду, што гатовыя гадамі сядзець у турме!.. Яны з тых, хто нават апошні патрон сабе не пакідае... На жаль, ганарлівых рыцараў супраціўлення засталося так мала... Таму краіна сёння нагадвае карабель, у якога ў шторм сапсавалася рулявое кіраванне... Падаткаў стала — як клапоў у старой канапе... Але фантазія ў гэтых, хто сам стварыў падаткі, — бедная-бедная... Мяне стала гэта раздражняць... Я адважыўся на эксперымент... Усё падаткі, якія прапануе ўлада, — вельмі балючыя... Можна сказаць, здзеклівыя. Напрыклад, на падарунак нявесце ад жаніха... Ды ў яго ж імпатэнцыя здарыцца ў першую шлюбную ноч, калі аглушыць падаткам. Я прыпамінаю, як адзін дэпутат, не памятаю прозвішча, на літару «Х», здаецца, дык ён прапанаваў зняць з рахункаў па дзесяць даляраў ва ўсіх, у каго ёсць мабільны тэлефон... Гэта ж крадзеж... Разбойны напад! Гэта як аперавааць без наркозу... Я пасядзеў пару вечароў, падумаў і пайшоў да Вялікага Падатковага Начальніка... З праектам новых падаткаў, якія берагуць нервы... Смешных падаткаў, але вельмі і вельмі дзейсных, напрыклад, падатак на палюбоўніцу. Кожны пабяжыць у падатковую інспекцыю, каб жонка не дазналася... Ці, скажам, падатак на вялікі бюст... Або тым, у каго вага больш за сто кілаграмаў... Давай, сябрук, бегай, скідай лішняе, усім карысць ад такога падатку... Ёсць шмат — значыць, грошы ёсць. Заплаці за абжорства! Ці еш менш, здаравейшым будзеш... Падатак людзям, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту... Усе адразу пагодзяцца: трэба павысіць пенсійны ўзрост! Або падатак на тых, хто не карыстаецца беларускімі прэзерватывамі, а купляе японскія... На японскіх карцінка прыгажэйшая. Ну і што, што беларускія рвуцца — затое нараджальнасць павышаецца! Зноў жа, усім карысць! Краіне — у першую чаргу... Да культуры трэба прывучаць людзей — шалёны падатак на тых, хто не карыстаецца туалетнай паперай ці не ходзіць на канцэрты класічнай музыкі — у нас залы пустыя... Падатак для састарэлых: дажыў да васьмідзесяці гадоў — плаці за тое, што яшчэ жывы... аддзяч уладзе, што дажыў, — гэта яе заслуга. Падзяліся радасцю, дарагі ты наш доўгажыхар... Вялікі Падатковы Начальнік слухаў мяне вельмі ўважліва, не перабіваў, і я, натхнёны яго ўвагай, пад заслону гутаркі прапанаваў яму самы неверагодны праект... Падатак на аргазмы. Кажу: «Хочаце мець паўтара мільярда даляраў на год? Слухайце. Я падлічыў: штодня ў Белых Трусаў каля двух мільёнаў сукупленняў. Вы ж ведаеце, трусы — яны любяць гэтую справу... Падатак плацяць і мужчына, і жанчына, значыць, чатыры мільёны аргазмаў. У суткі. Па адным даляры калі — атрымліваецца чатыры мільёны даляраў. Штодня. За месяц — сто дваццаць. За год сто дваццаць памнажаем на дванаццаць — адзін мільярд чатырыста сарок мільёнаў даляраў...

Вялікі Падатковы Начальнік — я па вачах бачыў — ачмурэў. Ці то ад сумы, ці то ад маёй геніяльнасці. І задаў пасля доўгага маўчання адно-адзінае пытанне: «А як Вы прапануеце іх лічыць?» «Дык дробязь... Кожнаму, хто дасягнуў паўналецця, ушываецца пад скуру малюсенькі чып... Накшталт кардыёстымулятара... Мы ж мадэрнізуем зніштальнікі, танкі... нельга ж увесь час толькі на вайну працаваць. Вынайсці чып для нашых акадэмікаў — дробязь... Ад чыпа — радыёсігнал, проста на пульт, у падатковую інспекцыю... У канцы года чалавек абавязаны прыйсці ў інспекцыю і заплаціць за задавальненне... Аргазм — гэта прадмет раскошы. Ва ўсім свеце ёсць падаткі на багацце, на прадметы раскошы... Вунь, артыст Дэпард'ё з Францыі пераехаў у Бельгію жыць — шкада развітвацца з грошыкамі... Ці не патрыёт. А трусы — стварэнні бязмоўныя, што гаспадар захоча — куды падзенуцца, будуць плаціць, як міленькія... Вялікі Падатковы Начальнік зноў доўга маўчаў, зусім, мабыць, ашалеў ад маёй вынаходкі — і раптам пытанні адно за адным пасыпаліся з яго, як проса з дзіравага меха:

— Прабачце, а куды вы прапануеце ўшываць гэты ваш лічыльнік?

— Ды не туды, куды вы падумалі. Сучасныя чыпы счытваюць інфармацыю ў любой частцы цела: хваляванне, голас, вібрацыя ...

— Але фрыгідныя жанчыны не атрымліваюць аргазму...

— Добры чып зрэагуе проста на задавальненне...

— А як быць з пенсіянерамі?

— Не перажывайце за іх. Пенсіянеры — таксама трусы, ім няма куды траціць грошы — і яны ўсё на «Віягру» спускаюць.

— А як быць з німфаманкамі? Ім ніякай зарплаты не хопіць на падаткі...

— У німфаманак заўсёды багатыя палюбоўнікі...

— Але ж аргазм можна схаваць, прыкінуцца... надурыў чып... Трусы, яны, ведаеце... А як быць з тымі, хто займаецца самазадавальненнем?

Карацей, падатковая — адзінае месца аказалася, дзе мяне не білі... А выслухалі і падзякавалі.

Я спытаў:

— Здаралася, што білі?

— Рознае было... За метро, напрыклад, білі.

— Якое метро?

— Ну, якое ўзарвалі. Пятнаццаць трупаў, тры сотні параненых. Я ехаў у перадапошнім вагоне... Таго самага цягніка на станцыі «Кастрычніцкая». Аглух я пасля гэтага, і, калі пачаўся суд над «падрыўнікамі», пайшоў на іх пагля дзець... А потым мне стала настолькі цікава, што я хадзіў у суд як на працу... Краіна нефарбаваных ідыётаў! Нас у гэтай зале трымалі за апошніх крэцінаў. Папершае, калі ты зладзіў такую бойню — трэба змывацца або залегчы на такое глыбокае дно, што ніякая сабака цябе не вынюхае сто год... А гэтыя — накупілі гарэлкі і сталі піць. А потым яшчэ па дабаўку вылезлі... Ну які дэбіл паверыць у гэтую брахню. Другое: якая ў іх цікавасць? Вось я бабу на дачу прывёз, у мяне да яе цікавасць... А гэтыя грохнулі жывых людзей за проста так... Па версіі следства — іх інтарэс: дэстабілізацыя абстаноўкі ў Белых Трусах... Ды яны гэтае слова нават вымавіць не маглі як след... Дэстабля... Ну, дурасць гэта... Не было ў іх ніякай цікавасці... як быццам пад Новы год двое дзецюкоў петарду вырашылі падарваць... Краіна нефарбаваных ідыётаў... Далей — больш... Аказалася, яны яшчэ забаўляліся з выбухоўкай і на канцэрце ў Мінску некалькі гадоў таму, і на іх павесілі яшчэ паўсотні параненых ад тэракту на канцэрце. Ва ўсіх пацярпелых былі пашкоджаныя толькі ногі... веерным выбухам ... Я два гады прабыў у арміі... Мяне вучылі сапёрнай

справе... Каб здзейсніць такі асколачны выбух — толькі па нагах — трэба быць падрыўніком вельмі высокай кваліфікацыі... Краіна нефарбаваных ідыётаў, нам на судзе ўцюхвалі ліпу і думалі, што мы паверылі... нават сваякі забітых пры выбуху ў метро не верылі, і яны не жадалі смерці гэтым дзецям у жалезнай клетцы... Было ясна нават дэбілу: другі выбух — у метро — прыдумалі, каб прыкрыць першы, але дрэнна разлічылі, сунулі сумку пад лаву... Лаўка — вось дзе сабака закапаны... Гэта і адвакаты давялі, і нераўнадушныя людзі ў інтэрнэце... і потым — нельга расстрэльваць людзей, калі яны маўчаць увесь час. Грэх, яны ж не нямыя... Я ўвогуле лічу, што людзі не могуць судзіць іншых людзей, не маюць права, толькі — саміх сябе... Але гэта доўгая філасофія, я баюся, што хутка нас выклічуць у апаратную... Карацей, я ўстаю, падыходжу да міліцыянта-ахоўніка каля жалезнай клеткі і кажу: «Я ведаю, хто падарваў. А гэтых — пусціце, яны не вінаватыя...» Дарэчы, я не выключаю, што іх маглі пакінуць у жывых, выпусціць з турмы і прыдумаць ім якоенебудзь іншае, але таемнае жыццё дзе-небудзь у Афрыцы ці ў Тайландзе, напрыклад... краіна нефарбаваных ідыётаў... Галоўнае — супакоіць грамадскую думку... Міліцыянт каля клеткі падклікае двaіх у цывільным: «Вось тут мужык ведае, хто падарваў». Мяне адводзяць з залы, мірна так, быццам блізкія сябры-таварышы ідуць піва піць... У парк, побач з будынкам суда... Прачнуўся я ў бальніцы, кажуць, знайшлі мяне выпадкова, каля магілы героям грамадзянскай вайны... Білі, у асноўным, па галаве... Калі па целе — сляды б знайшлі, а па галаве — пару гузоў, а слядоў відавочных не відаць... Ішоў чалавек сабе, гуляў па парку, спатыкнуўся, упаў... Вось і ўсё...

Я ўсяго толькі хачу, каб людзей добрых мне не заступалі людзі паскудныя... Усе крычаць: «Дайце дарогу таленту»... А калі гэта талент забіваць? Або паскудзіць? Мне кажуць: «Ты неадэкватны чалавек з мінулага». Дурні. Я — з іх будучыні... Мы ж не рухаемся наперад, мы вяртаемся назад... Краіна нефарбаваных ідыётаў — мы наіўна мяркуем, што мабільны тэлефон і камп'ютар выратуюць нас ад зводу — у Англіі ў Сярэднія вякі пакаранні на плошчах былі накшталт дзён выдачы зарплаты — а сёння лепш? Пакаранні з плошчаў увайшлі ў дом, у школу, у чалавечыя душы — жонка карае мужа, дзіця карае смерцю сваіх маці, бацьку... Хтосьці сказаў нядаўна: я не ведаю, як мы будзем ваяваць у Трэцюю сусветную вайну, але я бачу і адчуваю, што ў Чацвёртай сусветнай вайне мы будзем ваяваць камянямі і палкамі — я таксама бачу і адчуваю... у мяне прафесія вар'ята... я стаў чалавекам, які проста выкідвае апошнюю запалку, калі ўсе астатнія перад гэтым не запаліліся. Я бачу і адчуваю: Бога няма — Бог павінен быў дапамагчы мне, але ён не дапамог. Значыць, яго няма — мы з людзей стварылі Багоў, вялікіх і маленькіх, якія кіруюць намі, але я бачу і адчуваю: Багі не павінны быць падобнымі да людзей...

Пачуўся крык медсястры:

— Трынаццаты, у апаратную!

Ніхто ў чарзе не падняўся, і, калі сястра выклікала «трынаццатага» ў трэці раз, я спытаў: «Гэта не вас выклікаюць?»

Ён ускочыў: «Прабачце, заманіўся...»

У апаратнай прамянёвай тэрапіі былі вельмі жорсткія правілы: пакуль аднаго пацыента здымаюць з каляскі, пакуль ён апранецца, наступны за гэты час мусіць распрануцца і легчы на яго месца ... Час ішоў нават не на хвіліны, а на секунды... Я расшпільваў рэмень штаноў яшчэ ў «прылазніку», на вачах дактароў і медсясцёр... Радыяцыя!..

Я ўвайшоў у залу прамянёвай тэрапіі, калі мой гаманкі сусед яшчэ ляжаў на вазку... Мяне ўразіла маска на яго твары — як у фехтавальшчыкаў. Або ў хакеістаў. Пазней я даведаўся: такі «шлем» толькі для тых, у каго апраменьваюць мозг, каб пазнакі ставіць. У астатніх гэтыя пазнакі малююць проста на целе. Фламастарам. А тыя, у каго пухліна мозгу, у гэтых масках выглядаюць як іншапланецяне, у мяне нават думка мільганула: яны людзі з будучыні, і нехта ў Космасе даслаў іх сюды заўчасна... Ці выпадкова, а цяпер вось, каб выправіць памылку, забірае назад... У Космас...

Мой сусед, апрануўшыся, пайшоў не да выхаду, а да мяне, дакрануўся да каляскі, на якую я толькі што прылёг, быццам да краю труны... Адмахнуўся ад медсястры: «Мне ваша радыяцыя ўжо не пашкодзіць ...»

Нахіліўся і ціха сказаў:

— Вясной... Хадзіце ў лес...Кукуйце, вам адкажуць... Вось пабачыце... Я не змагу, мяне ўжо не будзе. У кожнай краіне ёсць свой Чэ Гевара, і кожны Чэ Гевара павінен загінуць. А вы кукуйце... Гэта, ці ведаеце, весяліць душу... Бывайце, пане... Дзякуй, што пагаварылі са мной...»

Медсястра гнала яго прэч, але я паспеў, нібы святар, супакоіць яго: «Кожны чалавек нараджаецца Каралём, і кожны Кароль памірае ў выгнанні... Я абяцаю вам... Вакол майго дома — лес... Можна нават з балкона... Я буду кукаваць... Кожную вясну... А потым мы з вамі сустрэнемся... Там... дамовімся. Мне таксама хочацца расказаць вам пра сябе. Мы з вамі ў нечым падобныя...»

Заінтрыгаваны і здзіўлены, пасля працэдуры я захацеў штонебудзь даведацца пра яго ў сваёй доктаркі. Тая пасля роздумаў адказала на маё пытанне, але з відавочнай неахвотай:

— Мы самі не ведаем, хто ён і адкуль, вялікі сакрэт... Прозвішча ведае толькі дырэктар... На картцы запісаны толькі нумар... шасцізначны, запомніць цяжка, таму мы самі прыдумалі яму мянушку: Трынаццаты...

Я набраўся нахабства і задаў пытанне, на якое лекары анкадыспансера ніколі не адказваюць:

— Якія ў яго шанцы?

Доктар, як ні дзіўна, адказала:

— Горшыя, чым у вас... Нашмат... Гэта ўсё, што я магу сказаць...

Вярнуўшыся дадому, я загнаў машыну ў гараж, але ў дом падымацца мне чамусьці не захацелася... Па дарожцы пайшоў бліжэй да лесу... Склаў далоні, дакрануўся да вуснаў і прашаптаў: «ку-ку»... Усяго адзін раз. Адказ зязюлі пачуў праз дзень... У сне... Гэты сон прысніўся мне пасля чарговага кашмару з тармазамі: ізноў «праваліліся» на хуткасці... На шашы... Я яшчэ не адышоў ад шоку, як побач з маёй машынай прыстыкаваўся раптам чорны джып... нумар знаёмы — СС... За шыбай на сядзенні кіроўцы я ўбачыў твар чалавека — такога шчаслівага мужчынскага твару я не сустракаў ніколі ў жыцці... Джып тут жа віскнуў і памчаўся дадому, але я да гэтага часу не магу «расшыфраваць» радасць эсэсаўцаў: няўжо ён мог быць шчаслівым ад таго, што я застаўся жывы?.. Ці гэта ўсяго толькі вышэйшая эквілібрыстыка СС: караць, не забіваючы. Пакуль. Як папярэджанне... Ці ж усё атрымалася, як і задумвалася — паводле метаду «аператыўнай псіхалогіі» ў Штазі.

# Чалавечая годнасць пачынаецца з ног, альбо Малазначныя (ці не) моманты, на якія беларусы могуць не звяртаць увагі

Піша беларускамоўная іспанка **Анхела Эспіноса Руіс**.



У Алеся Круткіна чароўная, своеасаблівая хада, якая не надта дапамагае захоўваць абутак у добрым стане. Свае простыя, вельмі мужчынскія чаравікі ён носіць два гады. У Беларусі лічыцца нормай пасля другога (!) года змяняць абутак. Здзіўляюся, бо сама таксама не зусім правільна хаджу, а кеды свае восьмы год як маю. Ну, хай будзе ўсё, як будзе, кажа Алесь, маўляў, сорамна прыязджаць да маёй сям'і ўлетку ў такім абутку.

## Цяжка ісці па гэтым жыцці, калі пастаянна баляць ногі

Агульнавядома, што іспанцы (і італьянцы, дарэчы) разбіраюцца ў чаравіках. Прапаную: давай зойдзем у краму, выберам табе новыя. Згаджаецца мой каханы — і ідзём на паляванне.

Выбар абутку ў настарэйшым горадзе Беларусі здзіўляе. Сваёй адсутнасцю. Затое цэны еўрапейскія, як трэба. А якасць ніякая, спадарства. Бяру ў рукі пару за мільён дзвесце (1.200.000, сябры). Тэстую яе, як навучыла бабуля: перакручваю, ціскаю ўнутраную частку, мяккасць правяраю. Як камень, халера. Гішпанец за такое і 10 еўра не заплаціў бы. А тут 1.200.000 беларускіх. Матэматыка мяне злуе, прычым моцна. Бяру чарговую пару, 850.000 бел. рублёў. Без ножкі можна застацца, калі насіць гэтае паскудства больш за гадзіну. І так з наступнай парай, і з наступнай...

У першай краме няма НІВОДНАЕ НАРМАЛЬНАЕ ПАРЫ мужчынскага абутку. У другой — аналагічна, што мяне чамусьці вельмі моцна непакоіць. Алесь спрабуе мяне супакоіць па дарозе ў трэцюю краму (я страшнаватая, калі злуюся), не дужа паспяхова. Прайшлі палову (ок, перабольшваю) Полацка, дайшлі да трэцяе крамы, самае вялікае з трох. Тэстую ўсе чаравікі, людзі паглядаюць ужо, а Алесь цярпліва назірае мае эксперыменты. Знайшліся літаральна ДЗВЕ пары, якія насіць можна. У 44-м памеры — адна. Бяром за 650.000 рублёў.

Алесь задаволены, глядзіць то на новыя чаравікі, як дзіця, то на каханую (мяне). Дзякуе за тое, што дапамагла выбраць і абдымае, каб супакоілася нарэшце. Абмяркоўваем з ім суадносіны якасць-кошт, даступнасць-выбар. «Алесь, — кажу, — разумееш, што адбываецца, праўда? Ты разумны чалавек. Сам сказаў: сорамна насіць стары (двухгадовы) абутак. А цэны такія, а заробкі сам ведаеш якія. Сярэднестатыстычны беларус не можа сабе дазволіць нармальны абутак. Няўжо не бачыш, як гэтая нібыта дробязь уплывае на годнасць чалавека? Да таго ж, чаравікі такія цвёрдыя, благія... Цяжка ісці па гэтым жыцці, калі пастаянна баляць ногі».

Маўчым пару хвілінак, глядзім на падлогу. Сонца грэе нам галоўкі.

«Вельмі добра хадзіць у гэтых чаравіках, — шэпча Алесь, — не ведаў, што бывае такі зручны абутак».

Пасміхаемся і, трымаючыся за руку, ідзём далей па старажытных вуліцах гістарычнага раёна Полацка...

# «Галоўнае ўражанне ад апошняй паездкі ў Мінск — вялікая колькасць беларускай атрыбутыкі ў горадзе»

Піша **Кастусь Шыталь**.



Галоўнае ўражанне ад апошняй паездкі ў Менск (6—9 мая 2016 года) — вялікая колькасць беларускай атрыбутыкі ў горадзе.

Бел-чырвона-белыя сцяжкі ў машынах, бел-чырвона-белыя стужкі і стужкі з арнаментам на вопратцы і заплечніках людзей, вышымайкі і майкі з выявамі на беларускую тэматыку.

Варта толькі прайсціся па горадзе, асабліва па цэнтры, і абавязкова трапіцца на вочы беларуская сімволіка.

Думаю, што гэта кідалася ў вочы і турыстам з Расеі, якіх гэтымі днямі было шмат у Менску. Гэта добра, няхай людзі разумеюць, што тут іншая краіна, са сваёй мовай і сімваламі.

Дарэчы, праз беларускую мову расейскаму турысту можа быць цяжка зарыентавацца ў Менску. На «Пушкінскай» два хлопцы і дзяўчына ўзіраюцца ва ўказальнікі і мапу. А ў схемах метро і абвестках інфарматара выкарыстоўваецца толькі беларуская мова.

— «Октябрьская» в эту сторону? — удакладняе ў мяне адзін з хлопцаў, калі падыходзіць цягнік.

— Так, даедзеце да «Купалаўскай», а там пераход на «Кастрычніцкую».

І бачу, што маладзёны мяне не зразумелі.

— Ну вот, — кажа дзяўчына сваім сябрам. — Теперь я понімаю, почему турісты в Минске... (я не чую канец фразы).

— Вы із России?

— Да.

— Доедете до «Купаловской», там переход на «Октябрьскую», — перакладаю я ім тое, што сказаў за некалькі секундаў да таго.

## Варта прайсціся па цэнтры, і абавязкова трапіцца на вочы беларуская сімволіка

Георгіеўскія стужкі ў Менску таксама трапляліся. Якраз быў Дзень Перамогі. Людзі чаплялі іх сабе на грудзі, на антэны машын, на рамяні фотаапаратаў. Але іх не дужа многа — значна меней, чым пластыкавых яблыневых кветак, афіцыёзнага атрыбута Дня Перамогі. Носьбіты георгіеўскай стужкі не выклікалі ў мяне злосці. Хутчэй, шкадаванне. Бо праз сваё невуцтва людзі выстаўляюць сябе дурнямі.

Нейкі чалавек у метро ішоў у майцы з вялізным партрэтам Сталіна. От гэта ўжо ні ў якія вароты не лезе! І чаму сустрэчныя людзі, ці суседзі, ці калегі па працы не растлумачаць яму, чаму ў Беларусі надзяваць такую майку не варта?

Але такі дзівак са сталінісцкай сімволікай мне трапіўся на вочы толькі адзін. Бачыў дваіх ілжывых ветэранаў. Калі была вайна, яны ў пялюшкі сікалі, а можа, і не нарадзіліся яшчэ. А цяпер з медалямі ходзяць па горадзе, хоць і не ваявалі.

На афіцыйныя мерапрыемствы з нагоды Дня Перамогі не хадзіў. Яшчэ ў школьныя гады яны мне не падабаліся, ад іх за вярсту вее крывадушшам. Для мяне ўшанаванне памяці пра вайну — памаліцца «Вечны супакой дай ім, Госпадзе...» на магілах ахвяраў. А на канцэрты і парады хай хто іншы ходзіць.

Скарыстаў побыт у Менску, каб сустрэцца з сябрамі — тымі, каго даўно не бачыў. Размаўлялі па-беларуску пра жыццё, пра Менск і правінцыю, пра гісторыю, пра царкву. У маіх сяброў К. нядаўна нарадзіўся першынец — яго назвалі Кастусём, гэтак і запісалі ў пашпарце. Сыну іншых маіх сяброў, Г-цкіх, Вітаўту, хутка споўніцца чатыры гады. Са сваёй сястрычкай Каралінай яны лётаюць па хаце як жэўжыкі, гамоняць па-беларуску.

— Калі ўздымаюць гэты сцяг, кажуць: «Жыве Беларусь!» — паказвае тата сыну на бел-чырвона-белы сцяжок.

— Жыве Беларусь! — спрабуе паўтарыць Вітаўт.

Дык сапраўды, жыве!




**Ва ўкраінскай амбасадзе ў Мінску 12 мая ўзнагароджвалі беларускіх ветэранаў, што за часамі вайны вызвалялі Украіну ад гітлераўскіх войскаў. Чатыры чалавекі атрымалі медаль «70 гадоў вызвалення Украіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Ад імя прэзідэнта Пятра Парашэнкі медалі ўручыў часовы паверaны ў справах Украіны ў Беларусі Валерый Джыгун. Агулам жа ўзнагароды мусілі атрымаць 667 чалавек, але далі рады прыйсці толькі чатыры — астатнім медалі перадасць наша Міністэрства абароны. Такая акцыя ідзе насуперак расійскай прапагандзе, якая ўжо два гады малюе новую ўкраінскую ўладу як «фашысцкую хунту».**




**Аляксандр Лукашэнка разам з прэзідэнтам Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедавым палівае пасаджаную ялінку на тэрыторыі Палаца Незалежнасці. Наш пільны чытач Антось даслаў невялікае паведамленне з абураным пытаннем: «Чаму Лукашэнка карыстаецца палівачкамі, якія выраблены ў Латвіі? Няўжо ў квітнеючай Беларусі не змаглі вырабіць палівачкі?» Згодна з інфармацыяй адкрытых крыніц, беларуская палівачка каштуе танней за латвійскую.**




**Нацбанк выпусціў памятныя манеты «Шлях Скарыны. Кракаў» серыі «Шлях Скарыны»: срэбную — наміналам 20 рублёў, масай 33,62 г, дыяметрам 50,00 мм, пробай сплаву 925, накладам 2 000 штук; медна-нікелевую — наміналам 1 рубель, масай 19,50 г, дыяметрам 37,00 мм, накладам 3 000 штук.**



**Чарговы вандалізм мінскіх уладаў: у цэнтры горада замалявалі графіці з катом у шаліку. Яно размяшчалася ў двары па вуліцы Румянцава, насупраць Лінгвістычнага ўніверсітэта. Графіці праіснавала больш за год, цяпер раптоўна яно стала некаму перашкаджаць. Ката ў шаліку намалявала арт-студыя «Тактак».**



**Амерыканскі акцёр Леанарда Дзі Капрыа закруціў новы раман, піша The Daily Mail. 41-гадовы сэрцаед застаўся верны сваім густам: чарговая дзяўчына кінозоркі — бялявая мадэль. Дзяўчыну завуць Эля Кавалец, і яна полька.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Мы жывём у праваой дзяржаве. Проста ў кагосьці правоў больш, а ў кагосьці — менш.

* * *

– Вы ведзяце няправільны лад жыцця!
– Вось толькі не трэба мне зайздросціць!

* * *

Бывае, глядзіш у вочы сабаку і думаеш:
– Ну як чалавек!
А часам глядзіш у вочы чалавеку і думаеш:
– Ну і сабака!

* * *

У якасці прэміі супрацоўніку пошты дазваляецца ўскрыць тры выпадковыя пасылкі.

* * *

Памятаеце, як мы сядзелі на занятках па біялогіі, вывучаючы сабаку Паўлава? Доўга смяяліся, якія дурныя ў яго сабакі.

А потым звінеў званок — і мы беглі ў сталовую.

* * *

Самыя надзейныя паролі ў інтэрнэце ў малапісьменных людзей.

* * *

– Чула, ты выйшла замуж? Як муж, прыгажун?
– Ды не.
– Ён што, шмат зарабляе?
– Не вельмі.
– Значыць, у ложку...
– Ды не, як звычайна.
– Дык што ж ты ў ім знайшла?
– Ён не гуляе ў танчыкі!
– Ох, шчаслівая!

* * *

Купіла кіндар-сюрпрыз з прынцэсамі, а там апынуўся дыназаўр.

Цяпер разумею, што адчувала мама, калі я вырасла.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Гродна.** Беларусы-гродзенцы гулялі маёўку гэтымі днямі. Што весялосці і смеху, свабоды і думак на лепшую будучыню! Моладзь — самае жыццё, ды і толькі! Сярод самых-самых тварыскіх іграў — музыка, танцы, дэкламацыя вершаў — усё па-беларуску! Гулялі без прынукі і нуды, як толькі можа гуляць моладзь, каторая бачыць перад сабой далёкую і цяжкую дарогу.

**«НН». №18-19. 1911.**

**Фільм «Код да Вінчы»** зняты з пракату ў Беларусі. «Цяпер гэтую абразу Хрыста не будуць паказваць у нас», — сказаў ксёндз-пробашч Чырвонага касцёла Уладзіслаў Завальнюк. Ён падзякаваў парафіянам, якія трымалі разам з ім пост супраць карціны «Код да Вінчы».

**«НН». №19. 2006.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 17.05.2016.
Замова №1709.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16019